PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 23 (1882) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 7 ЧЭРВЕНЯ 1992 г. ЦАНА 1500 зл.



*Высвячэнне мемарыяльнай дошкі ў гонар спаленых у 1944 годзе жыхараў рыбалаўскай парафіі.*

## У АПОШНІ ДЗЕНЬ ВАЙНЫ

Фронт стаяў у Трасцянцы. Жыхары такіх вёсак, як Целушкі, Паўлы, Рыбалы, павыганяўшы жывёлу і пазабіраўшы сваё дабро, сядзелі ў наднараўскіх лясах і балацявінах, чакалі, аж адступяць немцы і прыйдуць савецкі. Быў ліпень 1944 года.

У наднараўскім лесе мелі сваю зямлянку партызаны. Было іх чалавек дзесяць. Скінулі іх на акупаваную немцамі тэрыторыю недзе каля Бабруйска. Ідучы перад фронтам, яны прыйшлі сюды, на Беласточчыну. Тут, над Нарвай, рашылі прычакаць фронту. Мясцовыя хлопцы, якія ўдзень пасвілі коней і кароў, пазнаёміліся з імі і гулялі ў карты — у „ачко" або ў „дурня". Група была нейкая мяшаная, апавядалі мне людзі на паўлаўскім могільніку ў дзень св. Яна Багаслова, 22 мая 1992 г. Адны гаварылі па-расейску, іншыя па-польску. Камандзір быў расейцам.

Немцы пра партызанаў ведалі. Але выкрыць іх было цяжка — зямлянка была добра замаскаваная, а сярод мясцовых не знайшлося ніводнага чалавека, які навёў бы акупантаў на іхні след. Аднак жа 26 ліпеня 1944 года немцы зрабілі „прачоску" навакольных лясоў. Гэтая аблава заспела партызанаў знянацку — калі перад атрадам нямецкіх карнікаў, апярэдзіўшы яго на нейкую сотню метраў, паявіліся два нямецкія вайскоўцы (афіцэры, казалі людзі ў Паўлах), уцячы незаўважанымі было немагчыма. Партызаны забілі гэтых двух немцаў нажамі і ўцяклі. Атрад карнікаў праз нейкую хвілю натрапіў на сваіх забітых і, ачапіўшы ланцугом навакольныя лясы, учыніў аблаву на цывільнае жыхарства, што з гадзіны на гадзіну чакала вызвалення.

Цяжка сказаць, колькі людзей тады ўзялі. Самых малых дзяцей і жанчын адпусцілі. Мужчын загналі на хутар у Трычоўку і зачынілі нанач у пустую клуню. Дзверы клуні ледзь зачыніліся. На другі дзень адбылося нешта накшталт ваеннага суда. Паводле сабе толькі вядомай арыфметыкі немцы выбралі са схопленых людзей 24 чалавекі (ад 14 да 60 гадоў), а астатніх пагналі на Захад — на прымусовую работу ў Рэйху, як казалі. 24 выбраных чалавек запхнулі ў хату на хутары, аблілі яе бензінам і падпалілі. Згарэлі ўсе. Было гэта 27 ліпеня 1944 года. Праз дзень фронт скрануўся з месца, і прыйшло вызваленне.

Калі радня і сваякі прыехалі ў Трычоўку, нельга ўжо было каго-небудзь са спаленых пазнаць. Пахаваннне астанкаў адбылося на могілках у Паўлах. Прозвішчы, спаленых у апошні дзень вайны людзей, давялося ўстанаўляць пазней, паводле паказанняў і сведчанняў тых, якія былі прызначаны на работу ў Рэйху і выжылі.

Гадоў дваццаць таму ў Трычоўцы, на месцы ваеннай трагедыі, было так званае ўрачыстае адкрыццё табліцы ў памяць папаленых. Людзі ў Паўлах даволі неахвотна згадваюць той дзень. Адбылася паніхіда, потым нейкая свецкая нагода з помпай — так у пераносным, як і ў літаральным сэнсе. Былі пажарнікі з мясцовай каманды, адбылося нешта не зусім уцямнае для людзей, якія сабраліся ўшанаваць памяць сваіх родных і блізкіх — ні то інсцэнізацыя мінулай трагедыі, ні то яшчэ нешта падобнае і абсурднае. Пажарнікі скіравалі струмені вады на натоўп людзей і аблілі іх. Ніхто не ў змозе растлумачыць, чаму адбылося такое. Ці ўсё можна вытлумачыць адно тым, што Трычоўка — гэта польская вёска, а ўшанаваць памяць сваіх блізкіх сабраліся людзі з „нашых" вёсак?

*працяг на стар. 6*

## ЦІ ЎСЕ ДЗЕЦІ НАШЫ?

У навучальным годзе 1991/92 ў пачатковых школах Польшчы беларускай мове вучыцца 2878 дзяцей. Трэцяя іх частка /912/ - у Пачатковай школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

Сярод чатырох пачатковых школ Бельска «тройка» - як яе называюць у горадзе - працуе ў найгоршых умовах. На 17 дыдактычных залаў выпадае тут 1055 вучняў у 36 класах. Гэта абазначае заняткі на больш, чымсьці дзве змены. «Тройка», як адзіная школа ў горадзе, не мае гімнастычнай залы ані спартыўнай пляцоўкі. Будова гімнастычнай залы цягнецца ўжо ад 1988 года і напэўна яшчэ не хутка закончыцца - няма грошай. Каб палепшыць умовы дыдактычнай працы - няма добрай волі ні гарадскіх, ні асветных уладаў. Усе старанні ў гэтай справе нагадваюць спробы разваліць галавою мур.

У студзені 1991 года гарадскія радныя ад Беларускага выбарчага камітэта /у тым ліку дырэктар Пачатковай школы н-р 3 Васіль Ляшчынскі/ звярнуліся з просьбай перадаць на патрэбы школы будынак па дзіцячых яслях на вуліцы Пасьвентнай. Але Гарадская рада вырашыла, што гэты аб'ект аддасць ахове здароўя. Да сённяшняга дня стаіць ён пусты. Мала таго, сярэдзіна яго ўжо дакладна знішчана, раскрадзеная /па кранах, ракавінах, унітазах і таму падобным абсталяванні засталіся толькі ўспаміны/.

18 сакавіка мінулага года Педагагічная рада Пачатковай школы н-р 3 выслала ліст Упраге горада, у якім прасіла дапамогі ў атрыманні якога-небудзь новага будынка. У лісце чытаем, між іншым: «/.../ Школа працуе шэсць дзён у тыдзень ад гадзіны 8.00 да 18.30 /.../ Урокі фізічнай культуры праводзяцца ў калідорах і ў гарадскім парку. На сённяшні дзень гэта найгоршыя ўмовы працы так у пачатковым, як і ў сярэднім школьніцтве нашага горада.

Новая грамадска-эканамічная сітуацыя ўплывае на апаражненне шмат якіх памяшканняў іхнімі папярэднімі карыстальнікамі /ПАРП, дзіцячыя яслі, прадшколлі/. У святле вышэй напісанага просім падрабязна прааналізаваць магчымасць выкарыстання парожніх аб'ектаў для патрэб нашай школы». Ліст атрымала таксама Кураторыя асветы і выхавання ў Беластоку. 16.04.1991 г. Управа горада адказала, што бачыць патрэбу паляпшэння цяжкіх умоў працы Пачатковай школы н-р 3. «Але ў горадзе няма цяпер свабодных будынкаў і толькі ў канцы красавіка будзе відно, ці свабоднымі акажуцца ўспомненыя прадшкольныя. Будзе праведзены падрабязны аналіз і, магчыма, разглянем цяжкую матэрыяльную сітуацыю Вашай школы».

Разглядалі год.

6 красавіка сёлета дырэктар В. Ляшчынскі зноў накіраваў ліст у Гарадскую ўправу. Зноў старыя

*працяг на стар. 6*

## НА МЯЖЫ

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ
### Частка XVIII

Зразумела, што Беларусь можа стацца рэлігійнай краінай толькі ў такой ступені, у якой захоча гэтага грамадства. Аб ніякай адміністрацыйнай евангелізацыі Беларусі не можа быць мовы. Галоўнае, чаго патрабуецца ад дзяржавы, гэта поўная талерантнасць для ўсіх веравызнанняў і аднолькавая справядлівая іх трактоўка. Не можа быць на Беларусі рэлігій лепшых і горшых, афіцыйных і неафіцыйных, дзяржаўных і пазадзяржаўных, болей і меней прывілеяваных.

Няма сумненняў, што вялікая частка беларускага грамадства застанецца па-за рамкамі ўсіх рэлігій. Гаворачы іншымі словамі, будуць гэта няверуючыя беларусы. Такая катэгорыя людзей у ніякім выпадку не можа быць дыскрымінаванай. Мусіць яна карыстацца тымі самымі правамі, якімі будуць карыстацца веруючыя. Зразумела, што суадносіны паміж веруючымі і няверуючымі мусяць выпаўніцца ўзаемнай гармоніяй і талерантнасцю. Здаецца мне, што такі стан рэчаў зусім магчымы. Добрым прыкладам таму могуць быць суадносіны паміж праваслаўнымі беларусамі і беларусамі няверуючымі на Беласточчыне. Асабіста ведаю многа сем'яў, члены якіх падзелены з рацыі свае рэлігійнасці або атэізму. Не ведаю асабіста ніводнага выпадку вострых канфліктаў ці нянавісцяў, якія б выраслі на такім грунце. Хацелася б, каб такая формула стасункаў паміж веруючымі і няверуючымі сталася дамінуючай па ўсёй Беларусі.

У творчасці рускага пісьменніка Васілія Шукшына ёсць апавяданне, у якім гаворыцца аб знішчэнні старадаўняй царквы ў адным з калгасаў. Знішчэнне святыні было праведзена таму, што брыгадзіру спатрэбілася цэгла на нейкі там хлявец. Пасля знішчэння святыні ў адной з сем'яў даходзіць да вострай спрэчкі паміж старой маткай і яе сынам, які прымаў удзел у зруйнаванні святыні. На шчасце ў нас, на Беласточчыне не было, мабыць, ніводнага выпадку падобнага характару. Я асабіста ніколі не чуў ад якога-небудзь няверуючага беларуса, каб ён прапанаваў знішчэнне царквы. І гэта зразумела, бо вядома як вялікімі былі розніцы паміж польскім і савецкім сацыялізмам. Не чуў я таксама, каб які-небудзь няверуючы беларус з Польшчы лаяў веруючага за яго рэлігійныя перакананні.

Хочацца мне верыць, што ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь вера або бязвер'е станецца выключна прыватнаю сферай чалавечага жыцця і што ніхто пастаронні не будзе мець права ўмешвацца ў гэту сферу. Веру таксама, што рэлігійнасць або атэізм асобы не будзе ўвогуле брацца пад увагу ў выпадку павышэння на службе, узнагарод, характарыстык і ацэнак. Па-мойму, рэлігійнасцю ці атэізмам можна ганарыцца, але не трэба імі хваліцца, бо не яны акрэсліваюць нашу чалавечую каштоўнасць. Зрэшты, паміж веруючымі і атэістамі ёсць намнога больш супольнасці чым ім здаецца. Ці ж галоўныя ідэі дзесяці запаведзей не аднолькава важныя для веруючых і няверуючых. Ці ж такія прынцыпы як „не забівай", „не крадзі", „не мані", „шануй маці" не з'яўляюцца тымі ісцінамі, якія павінны быць аднолькава дарагія і важныя так для веруючых, як і няверуючых? Вось на грунце такіх адважных праўд і павінны яднацца ўсе людзі добрай волі, незалежна ад таго, да якой належаць рэлігіі, а таксама і тыя, якія стаяць па-за ўсімі рэлігіямі?

Веру, што беларусы знойдуць у сабе такую развагу і добрую волю, якая пазволіць ім бачыць у кожным другім чалавеку адзінку роўную сабе па чалавечнай каштоўнасці, незалежна ад яго веравызнання і ідэалогіі.

Мабыць, ніводнаму еўрапейскаму народу, так як беларусам, патрэбна ідэя ўзаемаразумення і гармоніі. Без іх не здолеем стаць поўнавартаснай нацыяй, якая стаіць перад абавязкам вырашэння гістарычных задач свайго духоўнага і гаспадарчага адраджэння.

Місія ў беларусаў адна — стацца нацыяй. Яе рэалізацыя можа здзейсніцца толькі ў выпадку свядомай мэтанакіраванасці ўсіх беларускіх сіл, усяго беларускага патэнцыялу. У ажыццяўленні гэтай місіі мусяць узяць удзел усе беларускія духоўныя сілы, усе веравызнанні і ўсе няверуючыя. Суверэннасць, тоеснасць і гонар народа вымагаюць аднолькавай ахвярнасці і вернасці з боку ўсіх сыноў і дачок краіны, незалежна ад таго, якому яны пакланяюцца Богу.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

---

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Прэзідэнт Ізраіля Хаім Герцаг** наведаў сінагогу-музей у **Тыкоціне**. У **Ломжы** (там нарадзіліся яго бацькі) узлажыў ён кветкі пад мемарыяльнай дошкай, якая ўвекавечвае 9 тысяч ломжынскіх яўрэяў. Наведаў ён таксама два яўрэйскія могільнікі.

**Польшча, Расія і Беларусь** плануюць пабудову газапровада, які спалучыць залежы газу ў Расіі з Заходняй Еўропай. Паводле падпісанай нядаўна дамовы ў 1997 годзе плануецца пастаўляць 13 млд. кубаметраў газу, а ў 2010 годзе — 40 млд. кубаметраў.

**Камісія літоўскага парламента**, якая даследуе дзейнасць КДБ, накіравала на разгляд у Вярхоўны суд справу былога прэм'ер-міністра **Казіміры Прунскене**. Ставіцца ёй закід супрацоўніцтва з гэтай установай.

**Чэслаў Мілаш** — польскі паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, як першы ў незалежнай Літве атрымаў ганаровае званне доктара honoris causa Універсітэта Вітаўта Вялікага ў Коўне.

**У беластоцкім касцёле св. Роха** адбыліся ўрачыстасці ў першую гадавіну беатыфікацыі **Баляславы Лямант**. Падчас набажэнства мошчы блаславёнай Баляславы былі ўручаны дзесяці манашкам, якія неўзабаве паедуць у Гродна і на поўдзень Расіі, каб там працаваць сярод мясцовага насельніцтва.

У беластоцкіх вышэйшых навучальных установах вучыцца **польская моладзь** з краін былога СССР. У Медыцынскай акадэміі штудзіруе 24 студэнты з Літвы і Беларусі (15 на лекарскім факультэце, 9 — на стаматалагічным). На Філіі Варшаўскага універсітэта вучыцца 15 студэнтаў (гуманістычны факультэт — 6, матэматычны — 5, псіхалогія і педагогіка — 4), а на Палітэхніцы — 1 студэнтка. Карыстаюцца яны стыпендыяй Міністэрства нацыянальнай адукацыі.

**Таварыства супрацоўніцтва з палякамі на Усходзе** разам з арганізацыяй „Wspólnota Polska" наладзілі ў Беластоку курс для настаўнікаў польскай мовы з Гродзеншчыны. Галоўная мэта заняткаў — методыка навучання роднай мовы ў I—III класах.

У канцы мая адбыўся **I Падляшскі кірмаш — Седльцы '92**, арганізаваны Фондам развіцця Падляшскага рэгіёна „Экаланд". У кірмашы ўдзельнічалі фірмы з Расіі, Украіны і Беларусі.

**З 1 чэрвеня змяніліся**, галоўным чынам падаражэлі, **аплаты за міжнародныя тэлефонна-тэлеграфныя паслугі**. Навізной з'яўляецца тарыф для прыгранічнага руху з Беларуссю, Расіяй, Літвой і Украінай. За такія размовы будзем плаціць так, як за міжгароднія размовы ў III зоне (звыш 100 км) у краіне, гэта значыць 7200 зл. (а ў гадз. 16.00 - 8.00 - 3600 зл.) за адну хвіліну.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Размова з куратарам асветы і выхавання.
* Літаратурная сустрэча ў скансэне.
* Камбінацыі прафесара з Кляшчэляў.
* Польшча - Літва 2000.
* Будзе свята беларускай культуры.

---

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ВЕЧНЫ ЗНІЧ

На мінулым тыдні ў Менску на плошчы Незалежнасці люд Беларусі ўпершыню сустракаў Свяшчэнную Іерусалімскую свечку, запаленую ад святога агню ля Гроба Гасподняга.

Дарэчы, менавіта пад блаславеннем „Нязгаснай лампады" праходзіць сёлета Свята славянскай пісьменнасці і славянскіх культур. А завяршылася трыумфальнае шэсце Вечнага зніча ў Маскве, на Славянскай плошчы. Там адкрыты помнік славянскім асветнікам Кірылу і Мяфодзію.

### АД ДАБРА ДАБРА ШУКАЮЦЬ

Здаецца і простыя жыхары, і кіраўнікі рэспублікі ўжо прызвычаіліся да штодзённых забастовак шахцёраў, таксістаў, пажарнікаў, настаўнікаў і нават калгаснікаў. І вось страйкавая хвароба дакацілася і да іншаземных фірм, што працуюць на Беларусі. Нядаўна забаставалі рабочыя турэцкай фірмы „Энка", якая будуе ў Слоніме жыллё для беларускіх вайскоўцаў. Праўда, завадатарамі і ўдзельнікамі страйку былі толькі беларускія пралетарыі. Яны патрабавалі павышэння заробкаў у два разы, паляпшэння жыллёвых умоў. Аднак турэцкія капіталісты не надта спужаліся выступлення беларускіх пралетарыяў і пагразілі звольніць 500 рабочых, калі тыя не спыняць страйк.

Гэта, відаць, і астудзіла пыл нашых суайчыннікаў, і яны вярнуліся на працу. Між іншым, у параўнанні з рабочымі, якія працуюць на прадпрыемствах Беларусі, пад турэцкім „гнётам" не так ужо і дрэнна, бо плаціць „Энка" у валюце.

### УСЕ ЗА АДНАГО

Згодна інфармацыі Генеральнага пракурора Беларусі Мікалая Ігнатовіча ў мінулым годзе 44 дэпутаты мясцовых Саветаў учынілі злачынства, але да крымінальнай адказнасці прыцягнуты толькі 8. Астатніх мясцовыя саветы не згадзіліся выдаць праваахоўным органам. Каб знішчыць гэтую кругавую поруку Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі вымушаны быў нядаўна прыняць спецыяльную пастанову. Хочацца верыць, нарэшце дэпутацкая мафія атрымае па заслугах.

### СПРАВА ЯЗАВА-ПУГІ — АЖЫВАЕ

У хуткім часе на вуліцах беларускіх гарадоў зноў з'явяцца ўзброеныя вайскоўцы. Урад рэспублікі прыняў рашэнне аб сумесным патруляванні гарадскіх вуліц сіламі міліцыі і армейскіх падраздзяленняў.

Зрэшты, гэта не першая спроба з дапамогай вайскоўцаў адолець злачыннасць. Год таму назад такім жа чынам спрабавалі навесці парадак нябожчык Барыс Пуга — міністр унутраных спраў СССР і вязень Матроскай цішыні Дзмітрый Язаў — міністр абароны СССР. Саюзны вопыт паказаў, што змагацца са злачыннасцю на танках — марная справа. Аднак нашыя дзяржаўныя мужы, відаць, спадзяюцца, што змогуць удасканаліць вопыт путчыстаў.

### НЕ „ПАДМАЖАШ" — НЕ АБРЭЖАШ

Гродзенскія вернікі — мусульмане нарэшце атрымалі магчымасць у стэрыльных умовах рабіць абразанне крайняй плоці. Выконваць гэты абрад будуць хірургі адной з гарадскіх клінік. Аперацыя-традыцыя для дзяцей каштуе 500 рублёў, для дарослых — 540.

### ІМЯ ЛЕНІНА ЗНІКАЕ

Беларусь пакрысе развітваецца не толькі са справай, але і з імем Леніна. Не так даўно вучоны Савет Белдзяржуніверсітэта хадайнічаў перад урадам рэспублікі аб „адлічэнні" з вядучай навучальнай установы Беларусі камуністычнага ідала. А на мінулым тыдні развіталася з імем Леніна Дзяржаўная бібліятэка рэспублікі. Зараз „Ленінка" носіць назву „Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі".

### РУКА МАСКВЫ СТАНЕ КАРАЦЕЙШАЙ

Як паведаміў падчас канферэнцыі „Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт" міністр інфармацыі рэспублікі Анатоль Бутэвіч, у хуткім часе на базе беларускага тэлебачання будзе створана Нацыянальная тэлерадыёкампанія з двума каналамі. Прычым ёй будуць перададзены больш магутныя тэлеперадатчыкі, якія зараз абслугоўваюць маскоўскае тэлебачанне.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ

№ 389


**АЛЕСЬ БАРСКІ**

* * *

А місія мая у тым,
Каб свет не астаўся
Дасканалым,
Бо што рабіў бы чалавек
У ідэальным свеце?
Хай вечна будзе нам
За многа і за мала
Дабра і ліхалецця.
Толькі цяжар жыцця
Душу нам дасканаліць —
Адзін дабрэе ў ім,
Другі становіцца
Ўсё горшым.
Плыве нястрымна
Велічная хваля
Праз свет увесь і Польшчу.
Па гэтай хвалі бела-чорнай
З крыштальнай чысціні і бруду
Плыву я — капітан і я — галернік
З усім працоўным людам.

* * *

Пайду усюды там,
Куды дайшлі сасонкі.
Быць можа, дзесь знайду
Ці рыфму, ці мелодыю.
Не чую гаманы,
Так як учора, звонкай
Бо хмурны небасхіл
Зваліўся на прыроду.
Але ў душы маёй
Ні хмараў, ні аблокаў —
Блакіт калыша сонца залатое
З зялёнае асновы і ўтоку.
Ткуць вершы мае добрыя настроі,
Далёкі небасхіл грудзьмі
Лёг на абшары.
Ніхто, ані нішто
Не ёсць на свеце вечным.
На шэрых конях і вазах
Імчаць па небе хмары,
А я з сонцам іду
Абняўшыся сардэчна.

**УЛАДЗІМІР ГАЙДУК**

**НАРВЯНСКАЕ ВОЗЕРА**

Я адзін з многіх тысяч сведак гісторыі,
Нарва, рака майго дзяцінства
Хутка ўжо пryме кшталт азёрны,
А на беразе яе юнацтва прыстань.

1979. 01. 14



**МІРА ЛУКША**

**СІВАГРАКІ**

*Генусю Шэмету*

сівагракаў грамада
ляціць над пожняю
селі на правадах

зверху бачаць
возера ў Семяноўцы
палеткі рэйкі

рэйкі ў Гайнаўку
Беласток Бельск
Мазыр Віцебск

— далёка!

раскрычаліся:
сіваграк сіваворонка
краска
беларуска
пташка простая
афрыканская
падарожніца

**ЗАВЕЯ**

*Лёню Меліховічу*

Галоднай ночы гостры бераг.
Палын на вуснах ціха спее.
Паранены ў палёце голуб
Прыціх за вэлюмам завеі.

І зноў гэтая чорная конніца
Прабяжыць па стамлёных грудзёх.
З гэтай злоснай сяброўкай-бяссонніцай
Дачакаць мне зноў золку ў дзвярох!

Зноў белыя лёзы світання
Балесна зраняць мае вочы.
І застанецца зноў чаканне
Губ палыновых горкай ночы.

Адна ў мяне была надзея —
Што вернецца зноў маё шчасце...
І хоць на вуліцы — завея —
— Усё ж адкрыю вокны насцеж!

**ЗАКЛІНАННЕ ВЕТРУ (ШАГАЛ)**

*Алесю Пушкіну*

Не збярэш у далоні ўжо
З рассыпаных пацерак зорак.
Разарваны міжволі шнурок
Уеўся ў пальцы крывавым узорам.

Не даганяй ветру, не даганяй,
Не пытай ветру, не пытай.
Як у прыску рубінавы міг,
Так на золку пагасне хвіліна.

Я цябе не шукаю ужо,
Не блукаю па ўзгорках спакою,
Дзе ад хмараў павісла святло
Ў хісткіх струнах над шэрай Дзвіною.

Можа ўскочыць у плытці мне сон,
Захлябнуцца горкай слязою,
Альбо ў вуснах зацісне той тон —
Гук прыглушанай колерам мроі?..

І чужых мне вачэй так шкада...
Колюць гострай іголкай у сэрца...
У люстэрку халодны скразняк
Б'е валоссю балюча ў шкельца.

Усё хапаеш у далоні вагонь —
Чысты боль паэта, прарока.
Горкім сокам спаўзе ў далонь
З пэндзля фарба слязой адзінокай.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# СМЕРЦЬ ВЯЗА

У другі дзень польскага Вялікадня рэйсавы аўтобус, што выязджае са станцыі адпраўкі ў шэсць гадзін і дваццаць хвілінаў вечара, рушыў у дарогу чамусьці з апераджэннем графіку часу. Шафёр - яшчэ хлопец - круціў радыёпрыёмнік у пульце, пакуль не знайшоў рок-музыку на іншаземных хвалях. Пасажыры ўсё старыя; дзедаватыя мужчыны - падпітыя, яны крыху пасвяткавалі ў меставых дзяцей ды ўнукаў. Не чулася звычайнай у будзённых падарожных размовы. Панурыўшыся сядзелі; адзін нясціхана цямкаў, бы немаўля /засынаючае пры грудзях маці/.

Ад палёў дзьмула ў шыбіны веснавым холадам з кропелькамі маладога дажджу. Прыцяплела, калі за Супраслю пачалася пушча. Недзе на пятнаццатым кіламетры шашы праз яе, ля лугоў Сакалды, гібела вёсачка /стражытнейшая за Амерыку/. На гэтай землябробчай паляне, абрубленай сумотнымі ялінамі і кудлатымі соснамі, выйшлі на прыпынку, што перад мостам, дзве бабулі. Па тым як паклыпалі - кожная ў свой бок - за паваленымі платамі, я дадумаўся, што ў марудныя ім ночы сцішна сварацца яны са сваімі нябожчыкамі, і тыя ад злосці грукаюць дошкамі ў гнілым шчыце, у ападаючых апухах, або крычаць цёмнай птушкаю ў абваленым хлевіску...

Паднялася віхура, ад Вярхлесу; шугала на тракт, віруючы леташнім лісцём асіны і бярозы /бяспечнае такое з вокан маторнай аграмадзіны/. У Паўночным Востраве ляжаў упоперак вуліцы голы вяз. Бездапаможнага, быццам даўнюю памяць, агледзелі яго зблізку, хто хацеў; прыйшлі мардатыя мужыкі з сякерамі ды піламі /пэўна, праваслаўныя ў так вялікае каталіцкае свята/. Дрэва парэзалі ў мэтры і можна было праехаць на Шудзялава і далей. Работу канчалі гэтак жа моўчкі і толькі той наш шафярняк закінуў да кагосьці слоўцам, але, ці то не дачулі, ці бо не схацелі... На небе праяснела. Вялікая Мядзведзіца свяцілася акурат над зборышчам, усё роўна што цікаўліва заўзіраўшыся з вышыні на выпадак у шудзялаўскім канцы Паўночнага Вострава. Аўтобус ад'язджаў з нейкай панікаватай хуткасцю, а яна - глядзеў я з задняга крэсла на яе - не скранулася з месца. І паўстаў мне ўваччу неверагодна далёкі спад лета з начлегам на сене ў зорнасць: не спалася тады ад ціхуткае радасці, ад якое пранізвала ўсяго мяне жаданне доўга і соладка плакаць... Гэта шчаслівасць быцця, зусім неразумна даверлівая, а як жа памятная!



# ЗАПІСКІ АМАЛЬ НАВУКОВЫЯ

Міфы культуры характарызуюцца бяздоказнасцю. Як матчынасць мовы, якой пярэчыць практыка самазнікнення народаў. Пачатак гэтаму ў сям'і. Працэс адрачэння ад свайго нараджаецца зазвычай у жанчыне. Ад яе пераходзіць гэта не столькі на мужа, колькі менавіта на дзяцей: гадуе іх на адшчапенцаў /тое ж датычыць рэлігійных пярэваратаў/.

Чым тлумачыцца такая вядучая роля жонкі? Насамперад несамастойнасцю яе лёсу. Яна ідзе замуж, яе нехта бярэ /у расейскай моўнай традыцыі - жэняцца не «з жанчынаю», а «на жанчыне», што здасца нават грубіянскім/. Канкрэтыку быту вырашае тыповы ёй інстынкт гнязда, які лімітуе рэакцыі ды паводзіны, элімінуючы рызыкоўныя /заўважце: у мужчыны наадварот, бо ён - бойкі самец!/. Звяртае ўвагу ў гісторыі цалкавітая адсутнасць інфармацыі пра паўстанні рабыняў; гаварыць пра іхную фізічную слабасць - гэта замоўчваць галоўнае.

Каханне - наступная вялікая выдумка. Прыглядзьцеся да жанімстваў: знойдзеце не абдуманае /хоць бацькамі/? Дзяўчына імкнецца да замужжа не каб мець цяжэй у жыцці. Не зважаючы і на тое, што мала каторая з іх з'явілася на свет Божы здольнай быць маткаю. Гэта адтуль такое мноства дзетак з пакрыўленым характарам, усякіх неўрастэнікаў і псіхапатаў.

Патрыятызм, айчыннасць. Каму гэта патрэбна? А тым, у каго ёсць выбар жыць у сябе ці на чужыне. У цэлага ж народа не бывае такое альтэрнатывы. Я спакойны за патрыятычнасць нацыі - яе ўсю аніхто хлебам не накорміць, калі сама на яго не запрацуе. Айчыннасць датычыць эліты. Прастанароддзю - гэта лішняя балбатня, як чытанне рыцарскага рамана галоднаму абадранцу.

Таму чуючы пра некага, што ён патрыёт, дык ясна для мяне: той чалавек хоча нажыцца. І вельмі добра! Грамадства без багатыроў не развіваецца. Паддаецца яно замажнейшым іншапляменцам, шукаючы ў асіміляцыі з імі паляпшэння свайго быту, а знаходзячы толькі ілюзію таго і расчараванне.






### СПРАВА КОНКУРСАЎ

У „Ніве" н-р 12 ад 22 сакавіка 1992 г. паявілася ў „Адгалосках" выказванне Тамары Русачык (шматгадовага методыка беларускай мовы) у справе конкурсаў. На жаль, замест аргументаванай палемікі, якая датычыла б формы і зместу правядзення конкурсаў для школьнікаў, аўтарка кіруецца імпульсіўнасцю і брыдка лаецца. Баламутнымі пытаннямі стараецца выклікаць у чытачоў ураджанне, што ў правядзенні конкурсаў быў балаган, дзе панавала хітрасць з ашуканствам. Кіруючы пытанні да мяне, яна хоча даказаць, што Ян Мордань ёсць „бэ". А гэта ўсё невыпадкова. Цяпер кіраўніцтву ГП БГКТ некаторыя асобы ёсць невыгоднымі і таму living рознымі фокусамі інспіруецца, каб іх аплёўваць. Такі „сюрпрыз" спаткаў не першага мяне і не апошняга. Што ж, такі час настаў...

Ліст пані Русачык можна было б і прамаўчаць, але ён датычыцца важнай справы, звязанай з выхаваннем маладога пакалення. Марна спадзявацца цяпер на „бэгэкатоўскае" кіраўніцтва, каб сур'ёзна і аб'ектыўна разглсдзела справу конкурсаў, таму прапаную на закіды пані Русачык глянуць спакойна, улічваючы бясспрэчныя факты.

Правядзеннем конкурсаў для школьнікаў займаюся я некалькі гадоў, як штатны працаўнік ГП БГКТ. Яе справы звязаныя з правядзеннем конкурсаў былі зацверджаны Прэзідыумам ГП БГКТ і Куратарыяй асветы і выхавання. У „Ніве" заўсёды публікаваліся матэрыялы з правядзення конкурсаў і можна праверыць, як яны праходзілі. Кожны год падводзіліся агульныя вынікі конкурсаў. За мінулы год падсумаванне адбылося 14 чэрвеня 1991 года падчас настаўніцкай канферэнцыі ў Бельску-Падляшскім. Тады настаўнікі атрымалі поўную інфармацыю пра конкурсы на аснове дакументаваных фактаў. І ніхто іх не аспрэчваў. У канферэнцыі ўдзельнічала і пані Русачык. Чаму тады нічога яна не гаварыла пра конкурсы? Чаму тады не выступіла са сваімі закідамі? Можа факты былі нявыгадныя? А яны ёсць такія. Пані Русачык конкурсамі цікавілася ад часу да часу. І калі ўжо ўключалася у іх правядзенне, дык часта ўзнікалі недаразуменні (далікатна кажучы) не толькі са мной. Асобам адказным за арганізацыю прыходзілася неаднойчы выпраўляць „умяшанні" методыка, каб не пакрыўдзіць удзельнікаў конкурсу. Прывяду толькі адзін факт такой „актыўнасці". Падчас раённых элімінацыяў дэкламатарскага конкурсу ў Бельску (8 лістапада 1990 г.) камісія пад старшынствам Т. Русачык на фінальны конкурс не закваліфікавала Марту Алексяюк са школы ў Храбалах, якая ў фінале ў Беластоку заняла II месца (апярэдзіла ўсіх зкваліфікаваных з Бельскага раёна). Дэкламатарка ў Беласток была запрошана па-за пратаколам тадышнім сакратаром ГП БГКТ Віктарам Стахвюком на маю просьбу з увагі на яе майстэрства дэкламацыі ў раённым конкурсе. Пасля гэтага дэкламатарскага конкурсу ў Прэзідыум ГП БГКТ паступіла нейкая скарга, пра якую цяпер намякае ў сваім лісце пані Русачык. Чаму тады скарга не была разгледжана як мае быць? Я нават не ведаю, чаго яна датычыла і штосьці здаецца, што гэтая скарга была ў стылі пані Русачык. Вось і цяпер, калі кіраўніцтва ГП БГКТ „бушуе", дык пані Русачык схапіла вецер у плечы.

**ЯН МОРДАНЬ**

## Фота-вітрына



**Цвітуць сады.**

*Фота Уладзіслава Завадскага.*

## АБ АДНЫМ РАПАРЦЕ

### АБО НЕАСАБЛІВА КУЛЬТУРНАЯ ГМІНА

Перада мною ляжыць дакумент пад назвай **„Raport o stanie ochrony zabytków — 1991 r. Gmina Narew, województwo białostockie"**. Рапарт гэты апрацаваны пад кіраўніцтвам Ваяводскага ахоўніка помнікаў дайніны (Wojewódzki Konserwator Zabytków). Рапарт прызначаны (акрамя архіву Службы аховы помнікаў дайніны) Гмінная радзе, Гмінная управе, ваяводу і кіраўніку раёна. (Нараўская гміна прыналежыць да Гайнаўскага раёна).

Як паінфармаваў мяне ваяводскі ахоўнік — пан Антоні Аляксіцкі — гэткія рапарты ягоная ўстанова робіць у адносінах да кожнае гміны ў ваяводстве. Служба аховы помнікаў дайніны вядзе ўлік усіх аб'ектаў, якія на абшары ваяводства маюць пэўную гістарычную ці культурную вартасць. Некаторыя з такіх аб'ектаў уводзяцца ў ваяводскі рэестр помнікаў дайніны — інакш кажучы, ад гэтага часу яны становяцца аб'ектамі, якія ахоўваюцца законам. Практычна, на гэтай уліковай актыўнасці ўсё канчаецца — служба аховы не мае грошай на нейкія іншыя мерапрыеўствы (рамонты, рэканструкцыіі, і г.д.).

На абшары Нараўскай гміны ў ваяводскі рэестр аховы помнікаў дайніны ўведзена 12 аб'ектаў: 2 прасторавыя планіроўкі, 9 помнікаў будаўніцтва і 1 могілкі. Рапарт даволі агульны — не называе, якія канкрэтныя аб'екты маюцца на ўвазе. Калі я ўсумніўся ў практычнай вартасці гэткага дакумента (гмінная рада, якая ў сваёй большасці складаецца з сялян, ніякім чынам не разбярэцца, што менавіта належыць асабліва ахоўваць на сваёй тэрыторыі), ваяводскі ахоўнік адказаў, што ягоная ўстанова пасылае ў гміну таксама дакладнейшыя рэестры помнікаў дайніны. Ваяводскі ахоўнік таксама ўносіць свае заўвагі і прапановы ў планы загаспадарання гміннай тэрыторыі.

*Gmina Narew jest obszarem, na którym nie wykształciły się szczególne wartości kulturowe* — гэта з рапарту. Далей — болей. *Obszar ten jest mieszany narodowościowo, przy czym Polacy stanowią mniejszość. Przeważa ludność deklarująca się ostatnio jako Ukraińcy. Ma to też swoje odbicie w sytuacji wyznaniowej — na terenie parafii katolickiej w Narwi znajduje się pięć parafii prawosławnych.*

Ну, хай там — залежыць, якой меркай мераць асаблівыя культурныя вартасці. Палац Браніцкіх знаходзіцца ў Беластоку, і куды там Нарве да такіх палацаў. Але гэткая фармулёўка, калі суаднясецца яе з далейшым кантэкстам, набывае асабліва абразлівае гучанне. Чаму няма гэтых асаблівых вартасцяў (ці таму, што палякі ў гміне складаюць меншасць?)? Я запытаўся ў пана Аляксіцкага, адкуль у яго дадзеныя наконт украінцаў у Нарве. Аказваецца, што так людзі кажуць, і апошнім часам шмат пра ўкраінцаў на Беласточчыне гаворыцца. (Найбольш, дадам ад сябе, у „Кур'еры падляскім" ці ў „Кур'еры паранным"). На жаль, ваяводскі ахоўнік не назваў ніводнага прозвішча ўкраінца ў Нараўскай гміне. Адкуль, тады, сцвярджанне аб тым, што „przeważa"? Тут А. Аляксіцкі крыху збянтэжыўся і прызнаў, што фармулёўка не зусім удалая (sic!). Калі я звярнуў яму ўвагу, што праваслаўных парафіяў наогул не мераецца меркай каталіцкіх парафіяў (адкуль такая тэрытарыяльная ці адміністрацыйная мерка — „адна каталіцкая парафія"?), ён тут таксама пагадзіўся і спаслаўся зноў жа на няўдалую фармулёўку.

Summa summarum, ваяводскі ахоўнік помнікаў дайніны выказаў сваё шкадаванне з прычыны гэтых „няўдалых фармулёвак" у рапарце і запрапанаваў, калі будзе такое пажаданне Гміннай управы або рады, спаткацца з нараўлянамі і высніць гэтыя „недаразуменні".

Добра й тое, калі, вядома, маем тут дачыненне з недаразуменнямі. Думка ў мяне наконт гэтага крыху іншая. Я ўжо пару разоў пісаў у „Ніве" аб „нашых украінцах", якіх поўна ў польскамоўных публікацыях і ўсялякіх рапартах пра Беласточчыну. Невыпадковая гэта справа. Можа быць усё, украінцы, русіны, рускія, палешукі, абы толькі не беларусы. Бо ніводзін з гэтых новых на Беласточчыне „этнасаў" не мае сур'ёзных шанцаў на выжыванне. А беларусы, як ні дзіўна, яшчэ трымаюцца, хоць ужо значна над'едзеныя асіміляцыяй. Але камусьці поступ гэтай асіміляцыі відаць, здаецца занадта марудным. Адтуль і прамыванне мазгоў, якое часам называецца „няўдалай фармулёўкай". Што напісанае пяром, таго не вырубіш тапаром — нейкі такі прынцып. Украінцаў ад гэтага не прыбудзе, але, магчыма, вада скаламуціцца. А ў каламутнай вадзе, як кажуць, лавіць рыбу лягчэй.

**ЯН МАКСІМЮК**

## НАВУКОВЫ І МАРАЛЬНЫ АЎТАРЫТЭТ

2 мая 1992 г. памёр выдатны польскі гісторык **Стэфан Кеневіч** - прафесар Варшаўскага універсітэта, член Польскай акадэміі навук. Прафесар Стэфан Кеневіч нарадзіўся 20.09.1907 года на Палессі.

У «Gazecie Wyborczej» ад 4.05. так пра яго напісаў Ежы Едліцкі: «Памёр вялікі гісторык і разам з канцом яго доўгага і працавітага жыцця адышла цэлая эпоха ў польскай гістарыяграфіі. Ніхто ў большай ступені не паўплываў на кшталт нашых ведаў пра польскае XIX стагоддзе, нашы погляды на паўстанні і арганічную працу, на рэвалюцыю і палітыку згодніцтва, чымсцы Стэфан Кеневіч».

«Не быў ніколі ў ніякай палітычнай партыі, - напісаў у тыднёвіку „Polityka" Марыян Турскі, - палітыкай для яго было пачуццё грамадзянскага доўгу. Выдатны розум. Выдатны гісторык, які спалучыў знакамітую знаёмасць крыніцаў са здольнасцю рабіць сінтэзы. Дасканалы пісьменнік. Бясспрэчны навуковы і маральны аўтарытэт. Апублікаваў звыш 30 кніжак і каля 700 артыкулаў".

Больш як 40 год быў ён галоўным рэдактарам квартальніка «Przegląd Historyczny», у якім змяшчаў многа матэрыялаў на беларускія тэмы. Змяшчаў, хаця вялікага зацікаўлення імі ў Варшаве не было, тым больш вялікай прыхільнасці. Аляксандра Бергман успамінала: «Я тры разы размаўляла з прафесарам Кеневічам. Гаварыў ён, што яму раілі не кранаць беларускіх спраў. Але ён не зважаў на гэта, а нават заахвочваў пісаць больш, бо і сам цікавіўся беларускімі справамі».

Гістарычная навука разам са смерцю праф. Стэфана Кеневіча, несумненна, атрымала вялікую страту. Сярод польскай інтэлігенцыі не стала вялікага аўтарытэту.

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

05-08-1988 г.

Чуваць - прымас Глемб збіраецца ў Беларусь, пад восень. Не будзе ж ён там аднаўляць беларускі каталіцызм. Хутчэй за ўсё наадварот! - ва ўмовах так рухавага цяпер адбудоўвання польскай культурнай субстанцыі ў Панямонні.

9 жніўня 1988 г.

Учора закончыў «Наведанне», пасля паўтара месяцаў ад пачатку. І ўжо тыдзень будзе як паседжваю над нечым новым /славенская прыгода/. Гацка даў мне майскі «Новый мир». У ім ашаламляльнае эсэ «Истоки»! Заснуў на досвітку.

Мардуюся, - і ўжо блізкае заканчэнне: «Białoruskie stereotypy Polaka». На нацыянальнаменшасны семінар ва уроцлаўскім універсітэце, у верасні. З'явілася сп. Зоя Смаршчок з Бельгіі /Гэвэр/. Нудная эмігранцкая адарванасць, беспаняцце пра айчынныя падзеі. Але сімпатычная як асоба. Заўтра паедзе ў Крынкі, хоча пабачыцца з Таняю. Эмігранты папярэджвалі яе, што я ... паланафіл. Што гэта? Дзеянне супроць мяне? Дзівакі! Я ж не вяду ігры з выгнанніцкім захадам. Чужына не імпануе мне, іхная.

Святары Кастусь Бандарук і манах Якуб эмігравалі ў ЗША. Шкада, бо былі яны тут у ліку тых нешматлікіх беларускіх патрыётаў у духоўніцкім апараце ўладыкі Савы /ягонай ападыктычнасцяй тлумачыцца іхнае рашэнне/. Якуб - Пірута з Хільмонаў. У актыве беларускай эміграцыі наогул усё болей людзей з Беласточчыны, дзякуючы якім прадоўжыць яна сваю жыццяздольнасць. Пры чым, на якасна лепшым узроўні, не так прасцяцкім. Вось як! А я здзіўляюся, чаму робіцца так ціха ды бястлумна вакол мяне /чым, дарэчы, задаволены; больш і лепей пісаць магу/.

12-08-1988 г.

У «Кур'еры падляскім» - „Człowiek sukcesu". Той жа К. Расінскі /з Быдгашчы ён/ пра Лёніка /навязвае да «Палітыкі» ад 30.VII., ад якой і ўзняўся тут шум!/. Расінскі - не «крэсавяк», спрыяе нам, беларусам. Апісваючы ашаламляльную кар'еру Лёніка, яго раз'язджанне па цэлым вялікім свеце ды град узнагародаў, падкрэслівае адначасна і беларускасць героя, ягоную барацьбу за наша нацыянальнае адраджэнне /у апазіцыі да анахраністаў/. Адзін з тых, грамадска важных, тэкстаў, які прыспешвае выспяванне нашай годнасці і партнёрскія адносіны да нас з боку палякаў. Разам з тым уяўляю сабе, які погалас пойдзе наконт маёй асобы, фантазёрскія здогады, нібыта высокія сувязі ў мяне ды шчупальцы, ад Варшавы да Нью-Йорка і Японіі, бо без Яновіча немагчымы кантакт з Тарасэвічам... Намёкі Расінскага. «Маладосць» пачала з сёмага нумара друкаваць нарысы «Старажытная Беларусь» Міколы Ермаловіча /памятаю, знаёміў мяне з ім Каханоўскі, на адкрыцці мемарыяльнага знака ў Мясоце тады, к. дзесяці гадоў таму/. Вельмі грунтоўная рэч, якая надзвычай своечасова заспакоіць наш голад ад безгістор'я. Не трэба будзе нам тут самім нешта «сачыняць».

13-08-1988 г.

Не дае мне спакою думка, што зарана прыйшла да Лёніка ўдача. Калі акажацца з часам, што талент у яго не аж так вялікі, дык будзе трагедыя! Але, прынамсі, адыграе тую ролю, што пакажа высокі вельмі скок беларуса ў прыклад /папрок?/ асімілянтам.

Праваронію пісьмо Яраслава ў «Палітыцы» ад 6-га: «Białorusini na bliższych kresach». Беззаганнае ды інтэлігентнае.

14 жніўня 1988 г.

- Узгоднілі профіль час. «Кантакт» і прыкінулі змест яго першых нумароў /так будзе называцца/. У асноўным усё абдумаў Юрка.

*/Працяг будзе/*

Тлумачэнні:

- **Мікола Ермаловіч** - *выдатны гісторык, які, ва ўмовах бальшавіцкага праследу, потайна пісаў амаль праз палову свайго актыўнага жыцця фундаментальную працу «Старажытная Беларусь» і сенсацыйнае даследаванне «Па слядах аднаго міфа», выратоўваючы ад маскоўскага фальшу сапраўдную гісторыю нашай Бацькаўшчыны;*
- **Каханоўскі** - *Генадзь Каханоўскі, вядомы беларускі краязнавец і спадзвіжнік Ермаловіча;*
- **«Кантакт. Шляхі беларускай думкі»** - *непадцэнзурны часопіс, які скончыў сваё існаванне на чацвертым нумары. Аказаўся запозненай ініцыятывай, калі ва ўмовах гарбачоўскай «перестройки» неўзабаве сталася магчымым усё публікаваць яўна, а цэнзуру ліквідвана;*
- **Гацка** - *Анджэй Гацка, беластоцкі літаратар, перакладчык беларускай літаратуры.*

ПОМНІКІ КУЛЬТУРЫ

# ЦАРКВА Ў САКАХ

Назва вёскі ўпамінаецца ўпершыню ў пісьмовых крыніцах з XVI ст. як *сяло Сакоўскіх*. Да сённяшняга пражывае тут дробная шляхта (даўнія баяры) па прозвішчу Сакоўскія. Астатнія жыхары маюць іншыя прозвішчы і яны патомкі даўніх сялян.

Здавён-даўна знаходзіцца тут царква. Сярод мясцовага насельніцтва жыве легенда пра ікону св. Дзмітрыя Салунскага. У час татарскага нашэсця жыхар вёскі Сакі трапіў у палон і быў вывезены ў ісламскую Турцыю, дзе як нявольнік працаваў у пякарні. Менавіта там для закрывання адтуліны ў печы прымянялася дошка з выявай св. Дзмітрыя. Аднойчы той жа нявольнік (ён хрысціянін) убачыў у сне юнака, які звярнуўся да яго з просьбай забраць з сабою дошку з абразом. Яшчэ некалькі разоў узнаўляў ён сваё прашэнне. Нявольнік узяў дошку з сабою і перад сном палажыў яе сабе пад галаву. Калі ён прачнуўся, пабачыў, што знаходзіцца ў сваёй роднай мясцовасці, у Саках, на гары між балотамі. Аб гэтым здарэнні даведаўся мясцовы ўладальнік маёнтка і гэтае цудоўнае месца прызначыў пад царкву. Ікона аказалася цудоўнай і многія людзі атрымалі ад яе выздараўленні. Пабудаваная царква аднак згарэла, але ікона ўцалела. На гэтым жа месцы зноў была пабудавана царква. Столькі легенда.

„Кліравая Ведамасць" Дубіцкай царквы паведамляе, што была яна перанесена ў 1595 годзе з Дубічаў.

Генеральная візітацыя Дубіцкай царквы з 1727 года заяўляе, што „*kaplica w Sakach, fundacji P.P. Sakowskich, w której zaś w rok odprawuje się nabożeństwa na święty Demetryusz za indulam...*"



*Царква ў Саках, 1992 г. Мал. Яраслава Троца.*

Пад канец XIX ст. царква была апісана ў наступны спосаб: „могільнікавая царква знаходзіцца паўкіламетра ад вёскі на пагорку і пяць кіламетраў ад прыхадской царквы ў Дубічах. Царква драўляная, на цагляным фундаменце і пабудавана стараннем уладальніка маёнткаў вёсак Сакі і Маліннікі. Званіца пастаўлена побач". У 1889 годзе іканастас быў перанесены з прыхадской царквы і таксама быў устаноўлены новы алтар, жэртвеннік і паложана новая падлога. Таксама быў зроблены новы ківот для іконы св. Дзмітрыя Міласціваго, якую ў ваколіцы вернікі моцна шанавалі, а таксама плашчаніца. Аднаўленую, на сродкі прыхаджан (123 рублі 25 капеек) царкву вывсвяцілі 26 кастрычніка 1890 года. У 1900 годзе быў зроблены новы, крыты гонтай, дах.

У міжваенны перыяд царква была рамантаваная, а ў пяцідзесятых гадах яе разбудавалі і пакрылі бляхай. У 1990 годзе быў праведзены рамонт паўночнага фасада, а сцены былі папоўнены новым матэрыялам.

З даступных архіўных дакументаў вядома, што апекуном царквы ў Саках у міжваенны перыяд быў Карп Лысюк; Васіль Васілюк апекаваўся храмам аж да шасцідзесятых гадоў, а ад 1962 г., на працягу дваццаці гадоў —Ян Врублеўскі. У васьмідзесятыя гады апекавацца царквою даручана Васілю Баране, які выконвае гэту функцыю па сённяшні дзень. Душпастырскія абавязкі праз увесь час існавання храма выконвае клір прыхода ў Дубічах-Царкоўных.

Царква ў Саках размешчана на пагорку, абведзена дрэвамі, якія ствараюць у мясцовым краявідзе прыгожую архітэктурную кампазіцыю. Могільнік з крыжамі і помнікамі прыдае гэтаму месцы асаблівае значэнне — вечнага адпачынку.

Задбаная царкоўка з арыгінальнай званіцай і пашыраны ў ваколіцы культ св. Дзмітрыя пазітыўна ўплываюць на прысутнасць вернікаў на набажэнствах. Апошнім часам духоўныя ўлады прыхіляюцца да ідэі стварэння самастойнай душпастырскай пляцоўкі пры могільнікавай царкве ў Саках.

Р. С.





*План званіцы (маштаб 1 : 50), і царквы (маштаб 1 : 100)*

# ЦІ ЎСЕ ДЗЕЦІ НАШЫ?

*працяг са стар. 1*

аргументы, але і новая прапанова адносна аб'екта, якім магла б карыстацца «тройка». У былой сядзібе камітэта ПАРП другі год ужо змяшчаецца філія Пачатковай школы н-р 4. Сёлета плануецца закончыць пабудову новага будынка гэтай школы, у сувязі з чым былы партыйны вызваліцца. «Прызнанне вышэй успомненага будынка /вул. Каперніка 3/ будзе вельмі карысным для эфектыўнага кіравання школай. /.../ Блізкае яго суседства дазволіць дзецям, якія б там вучыліся, карыстацца лекарскімі кабінетамі, святліцаю, школьнаю сталоўкаю, гімнастычнай залай і спартыўнай пляцоўкай /гэтае апошняе, зразумела, у будучыні - **М. В.**/».

У той жа самы дзень беластоцкі куратар Пётр Літэрмус выслаў афіцыйнае пісьмо з інфармацыяй, што 25 сакавіка прыняў ён пастанову аб стварэнні новай пачатковай школы ў Бельску. Школа гэтая - н-р 5 - адчыніцца ў будынку, які хацела пераняць «тройка». Цікавым з'яўляецца кшталт новай школы: яна трохкласная. У чацвертым класе дзецям давядзецца пашукаць іншага месца навукі. Аб сваім рашэнні куратар паінфармаваў дырэктараў школ н-р н-р: 1, 2 і 4. Не палічыў ён патрэбным прысласць якое-небудзь пісьмо ў школу н-р 3. Ці толькі таму, што гэтым актам змяніў раёны тром школам, а «тройка» безраённая? Дырэктар Ляшчынскі, як радны, 16 красавіка паставіў бурмістру Бельска наступныя пытанні:

1. Ці Управа горада выступіла ў Кураторыю з просьбай адчыніць у Бельску Пачатковую школу н-р 5?
2. Хто даў рэкамендацыю на стварэнне новай школы і змену школьных раёнаў?
3. Ці гэтыя крокі атрымалі адабрэнне Управы і Рады горада?

Бурмістр Бельска Казімеж Ляшчынскі /з іншых Ляшчынскіх/ адказаў лістом ад 27 красавіка, што аб адкрыцці Пачатковай школы н-р 5 даведаўся з пісьма куратара /таго ад 6.04.1992 г./. Ані Управа, ані Рада горада не выступалі з пастулатамі адкрыць новую школу. На іхніх пасяджэннях не было пра гэта нават мовы. Бурмістр лічыць, што пакуль школьніцтва не пяройдзе пад кампетэнцыю органаў тэрытарыяльнага самакіравання, усё вырашае куратар. Пачатковую школу н-р 5 адчыніў ён законна і ўся справа скончана.

У «тройцы» аднак усё яшчэ не губляюць надзеі на паляпшэнне лёсу гэтай школы. Бацькоўскі камітэт выслаў куратару П. Літэрмусу ліст з просьбай яшчэ раз разгледзець сваё рашэнне аб стварэнні Пачатковай школы н-р 5 у месцы сённяшняй філіі Пачатковай школы н-р 4. Зноў прыводзяць усе згаданыя аргументы за прызнаннем гэтага будынка «тройцы», яшчэ раз апісваюць умовы працы ў школе.

З прадстаўнікамі Бацькоўскага камітэта: Арсеніем Артысевічам, Аляксандрам Божкам і Міхалам Матусам куратар спаткаўся 7 мая. Сказаў ён, што створыць спецыяльную камісію, якая праверыць матэрыяльную базу ўсіх школаў Бельска. Але рашэння аб заснаванні Пачатковай школы н-р 5 не зменіць. Не даў таксама ніякіх абяцанняў дапамогі.

У гэтай усёй валтузні хацелася б падкрэсліць два аспекты справы. Папершае, куратар адчыніў новую школу без грамадскага запатрабавання і на здзіў улад горада. Падругое, што далей з «тройкай» - школай з найгоршымі ўмовамі працы ў Бельску; чаму куратар па-рознаму дбае пра сваіх падначаленых? Ці сваёй дзейнасцю не пярэчыць ён прынцыпу, што ўсе дзеці - нашыя?

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

PS. Размову з куратарам асветы і выхавання ў Беластоку чытайце ў наступным нумары.

# ПЕСНЯ ВЕРНАСЦІ

*/Заканчэнне. Пачатак у 22 нумары/*

У імперыялістычную вайну паэт быў прызваны ў армію, і яна ездзіць разам з ім па розных гарадах Беларусі. Яе брат, Вінцэнт Станкевіч, паспрыяў таму, каб Купала трапіў у дарожнабудаўнічы атрад Варшаўскай акругі шляхоў зносін. Вінцэнт вельмі любіў Янку за яго асаблівую ўдумлівасць і тактоўнасць у абыходжанні з людзьмі. А пра сваю сястру Уладку, як ён лагодна называў яе, казаў: «Яна, як жывое срэбра, вясёлая, гаманлівая, поўная невычэрпнай энергіі».

І ў цяжкія гады вайны Уладзіслава Францаўна не пакідае сваёй педагагічнай дзейнасці. Працуе нястомна, самаадданна, з душою. Спачатку ў Маскве - настаўніцай-выхавальніцай у дзіцячым паказальным прытулку для дзяцей бежанцаў з Беларусі, а затым настаўніцай-выхавальніцай у дзіцячых дамах Смаленска і Полацка.

Не пакідае яна педагагічнай дзейнасці і ў савецкі час. Працуе дашкольным інспектарам Наркамасветы па Мінску, настаўніцай-выхавацельніцай 8-га беларускага паказальнага дзіцячага саду. А колькі клопатаў і ўвагі аддавала Уладзіслава Францаўна Мінскаму палацу піянераў, дзе супрацоўнічала да самай Вялікай Айчынай вайны!

Працуючы інспектарам дашкольных установаў, часта бывала ў дзіцячых дамах, уважліва назірала за жыццём дзяцей, памагала ім чым толькі магла. Пры яе непасрэдным удзеле ў адным з такіх дамоў быў арганізаваны літаратурны гурток, дзе частымі гасцямі дзетвары былі беларускія пісьменнікі, у тым ліку і Янка Купала. Можна з упэўненасцю сказаць, што пад непасрэдным уплывам цёці Уладзі былі напісаны Купалам цудоўныя вершы для дзяцей, пачынаючы ад «Бая», «Юрачкі» і да вершаў «Алеся», «Сыны», «Хлопчык і лётчык». Уладзіслава Францаўна і сама спрабуе пісаць для дзяцей. Яшчэ да рэвалюцыі змяшчала вершы за подпісам Станкевічанка ў польскім часопісе «Зярна». Калі ж у 1921 годзе быў створаны першы беларускі часопіс для дзяцей «Зоркі», рэдактарам якога стаў Змітрок Бядуля, збірае і друкуе ў ім цікавыя матэрыялы для маленькіх чытачоў. У 1938 годзе выходзяць апрацаваныя ёю «Народныя дзіцячыя песенькі» для дашкольнікаў, а ў 1940 годзе - прыгожа афармленая кніжачка «Для маленькіх» і «Зборнік вершаў для дашкольных установаў», куды Уладзіслава Францаўна ўключыла ўсё лепшае, што было напісана для дзяцей як беларускімі пісьменнікамі, так і пісьменнікамі братніх рэспублік. Асобнымі раздзеламі вылучаюцца тут народныя песні, калыханкі, прымаўкі. Ёю ж былі апрацаваны народныя казкі «Пых», «Як пеўнік казу прагнаў», «Як жабы абараніліся ад бусла», а ў пазнейшы час Уладзіслава Францаўна - аўтар многіх артыкулаў, успамінаў пра Янку Купалу, Змітрака Бядулю, Цётку, складальнік многіх музейных зборнікаў аб жыцці і творчасці паэта, член рэдакцыйнай калегіі па выданню Збору твораў Янкі Купалы ў 6 тамах /1952-1954/, а таксама Збору твораў, які выдаваўся ў 1961-1963 гг.

Мала хто так шчодра і аддана, як Уладзіслава Францаўна, клапаціўся пра сваіх маленькіх выхаванцаў. Настаўнік М. Сеўрук успамінаў: «Працуючы ў акруговым аддзеле асветы, мне не раз даводзілася прысутнічаць на святочных ранішніках. Разам з бацькамі і мы, госці, радаваліся, як добра выхоўваліся тут маленькія савецкія грамадзяне. Як радасна свяціліся іх вочкі, як зладжана яны спявалі, дэкламавалі вершы, скакалі. Чысціня, парадак, мноства кветак у памяшканні проста здзіўлялі. Як родная маці, як добры і ўмелы кіраўнік Уладзіслава Францаўна акружала сваімі клопатамі гэтых дзетак».

Той, хто добра ведаў Уладзіславу Францаўну, не мог не заўважыць яе незвычайную любоў да кветак. Яны былі скрозь: і дома, і там, дзе яна працавала. Невялічкі агародчык ля дома на Омскім завулку проста патануў у кветках. З якой любоўю і замілаваннем паказвала яна яго гасцям! Гэта была яе радасць, яе ўцеха. Наколькі яна любіла кветкі, настолькі ж не любіла іх ірваць. І ўсё ж шчодрасць і дабрата гэтага чалавека перамагалі: рэдка хто пакідаў яе гасцінны дом без букеціка нарцысаў, галінкі бэзу або асенніх астраў. Любоў да ўсяго жывога, прыгожага гаворыць аб вялікім багацтве душы гэтага чалавека, аб яе чуласці і сардэчнасці. Невыпадкова, што выхаванцы Уладзіславы Францаўны, якія зараз жывуць і працуюць у розных кутках краіны, захавалі ў сваіх сэрцах самыя цёплыя, самыя сардэчныя аб ёй успаміны.

1941 год. Парушана мірная стваральная праца савецкіх людзей. Уладзіслава Францаўна разам з Іванам Дамінікавічам балюча перажывае фашысцкую навалу. Яны ледзь паспелі выехаць з палаючага Мінска. На машыне накіраваліся ў Ляўкі, а адтуль - у Маскву. Купала быў вельмі прыгнечаны. У Мінску засталіся маці паэта, родная сястра. Уладзіслава Францаўна як магла падбадзёрвала і супакойвала мужа, пераносячы разам з ім усе цяжкасці і нягоды ваеннага часу. Як заўсёды, у гэты час думала не пра сябе, а пра сваіх сяброў, блізкіх і родных.

Прыехаўшы ў Маскву, яна і там ні хвіліны не сядзіць без клопату. Хвораму Купалу цяжка было выходзіць з дому, і Уладзіслава Францаўна старалася сама ўладкаваць усе яго справы: хадзіла ў рэдакцыі, да знаёмых, начамі дзяжурыла па доме за сябе і мужа, а то і за другіх людзей.

У канцы кастрычніка 1941 года Янка Купала збіраецца пераехаць у Казань, дзе ў гэты час знаходзілася Акадэмія навук Беларусі. У час падарожжа паэт вельмі дрэнна сябе адчуваў. Яго мучыў кашаль, даваў сябе знаць хранічны плеўрыт. На пераправе праз Волгу ў раёне пасёлка Печышча давялося затрымацца. Дырэктар мясцовага млын-завода І. Я. Наякшын, даведаўшыся, што на пераправу прыехаў Янка Купала, запрасіў яго да сябе, прыняў Уладзіславу Францаўну і Купалу як родных. Пазней у адным з пісьмаў Уладзіслава Францаўна пісала: «Мы прыйшлі нібы ў родны дом. Я да канца жыцця не забуду гэтай сям'і. Я настойвала на пераездзе ў Казань, але Купала катэгарычна заявіў, што нікуды не хоча ехаць, застанецца жыць у Печышчы».

# У АПОШНІ ДЗЕНЬ ВАЙНЫ

*працяг са стар. 1*

У дзень 22 мая сёлета, падчас прыхадскога свята св. Яна Багаслова ў Паўлах, на могільніку адбылося высвячэнне табліцы з прозвішчамі спаленых 48 гадоў таму назад людзей — прыхаджан рыбалаўскай парафіі. Паўлаўскі хор адспяваў „вечную памяць", настаяцель рыбалаўскай парафіі а. Рыгор Сасна сказаў над магілай адпаведную нагодзе прамову. Потым людзі са святарамі пайшлі ў „абход" свае вёскі, як хадзілі з году ў год яны самі і іхнія продкі. І хоць „усе мы на гэтым свеце госці", як казаў над магілай а. Рыгор Сасна, то нельга на заканчэнне не заўважыць, што і „ў гасцях" наканавана нам паводзіць сябе дастойна, так перад тымі, з якімі жывем побач, як і перад тымі, што ўжо жывуць адно ў нашай памяці. Памяць — ёй у рыбалаўскай парафіі аддаюць належнае.

**ЯН МАКСІМЮК**



*Цэркаўка на могілках у Паўлах.*

Хворы Янка Купала і тут не спыняе актыўнай грамадскай і літаратурнай дзейнасці. Ён удзельнічае ва Усебеларускім антыфашысцкім радыёмітынгу ў Казані, дзе выступае з прамоваю. піша публіцыстычныя артыкулы, вершы, заклікаючы народ на барацьбу з ворагам.

У гэты суровы час Уладзіслава Францаўна ўсяляк аберагае Купалу, клапоціцца, імкнецца аблегчыць яго становішча.

Тут, у Печышчы, яны пражылі каля васьмі месяцаў. Перажытыя падзеі не маглі не адбіцца на здароўі Янкі Купалы. Паэт цяжка пераносіў зіму, перамену клімату. З кожным днём пагаршалася яго здароўе. І. Я. Наякшын успамінаў, што ў гэты час Купала «часта хварэў, скардзіўся на боль у правай руцэ, моцную задышку, празмерна нерваваўся і скардзіўся, што хвароба не давала яму магчымасці поўнасцю выкарыстоўваць свае сілы ў барацьбе з ворагам».

У чэрвені 1942 года па выкліку ЦК КПБ Янка Купала збіраецца зноў у Маскву. Набліжаўся яго юбілей - 60-годдзе з дня нараджэння. Апрача таго, Купала хацеў звярнуцца да маскоўскіх урачоў.

Як не хацелася Уладзіславе Францаўне адпускаць яго ў Маскву аднаго, нібы адчувала сэрца, што гэта апошняе развітанне з Купалам. Так яно і здарылася...

Уладзіслава Францаўна добра разумела, якую страту панесла не толькі сама, а ўвесь беларускі народ. «Прыйшло пісьмо ад Уладзіславы Францаўны, - успамінае Канстанцыя Буйло, - што яна не можа вылецець на пахаванне мужа, бо не лятаюць самалёты з-за дрэннай пагоды і яна сядзіць на аэрадроме. Пісьмо поўнае суму і болю. А калі ўрэшце прыехала Уладзіслава Францаўна, жах ахіліў мяне. Я не пазнала яе. Яна неяк уся счарнела... Трымалася мужна, як заўсёды, але гора сушыла яе вiдавочна».

Цяпер, пасля смерці Купалы, усю сваю любоў і клопаты перанесла Уладзіслава Францаўна на жывую спадчыну паэта - яго творчасць, памяць аб ім. Справа Купалы была для яе даражэйшым за ўсё на свеце. «Памяць Янкі - гэта ўсё, што засталося мне ў жыцці,» - пісала яна сваім знаёмым. Амаль кожны яе ліст да блізкіх пачынаўся словамі пра Янку Купалу і канчаўся яго імем. Яна працягвала жыць яго жыццём.

Стварэнню музея, гэтага сапраўднага помніка паэту, Уладзіслава Францаўна аддае ўсе свае



*Уладзіслава Францаўна Луцэвіч у 1945 годзе.*

сілы, здароўе, вялікую нястомную энергію. Стаўшы ў 1943 годзе спачатку адказным сакратаром камісіі па ўвекавечанню памяці Янкі Купалы пры АН БССР, а затым /1945-1960/ клапатлівым арганізатарам і дырэктарам Літаратурнага музея паэта, Уладзіслава Францаўна ездзіць па розных гарадах, сустракаецца з людзьмі, якія былі знаёмыя з Купалам, і клапатліва, па крупінках збірае матэрыялы для будучага музея: пісьмы, рукапісы вершаў, паэм, кнігі, фотаздымкі. Нялёгка было ствараць музей. Дом, у якім жыў паэт, быў дашчэнту спалены фашыстамі, згарэлі ўсе рэчы, велізарная бібліятэка, рукапісы. Немцы вывезлі шмат кніг і рукапісаў з Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна ў Мінску, сярод якіх былі і купалаўскія.

Таму такім дарагім быў кожны экспанат для музея, кожны радок, слова Купалы, знойдзеныя ў архівах Кіева, Ленінграда ці Вільнюса. У розныя куткі краіны ляцяць шматлікія пісьмы Уладзіславы Францаўны: яе турбуюць выданні твораў Купалы, пошукі новых матэрыялаў. У пісьмах да адных яна расказвае пра свае музейныя справы, распытвае пра здароўе, асабістае жыццё, другім - спачувае ў горы, з іншымі - дзеліць радасць. Ні адна падзея, звязаная з памяццю Купалы, не абыходзілася без яе клопатаў, хваляванняў і трывог: адкрыццё філіяла музея ў Вязынцы, падрыхтоўка і правядзенне юбілеяў, устанаўленне мемарыяльных дошак, помнікаў.

Высока цанілі яе дапамогу людзі, якія пісалі пра Купалу, даследавалі і вывучалі яго спадчыну. Не раз яна сама ездзіла разам з імі па ўсіх мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю паэта, знаёміла з людзьмі, якія асабіста ведалі Янку Купалу, сустракаліся з ім.

Я яшчэ вучылася на трэцім курсе інстытута, калі цёця Уладзя запрасіла мяне на час летніх канікулаў папрацаваць у музеі. У той час музей знаходзіўся ў адным будынку разам з Саюзам пісьменнікаў.

Я даволі хутка авалодала музейнаю справаю, бо ў мяне былі вопытныя настаўнікі - Яніна Прыбыткова і Лілія Копаць, але, вядома, перш за ўсё - Уладзіслава Францаўна. Яна сама вадзіла мяне па залах музея, падрабязна расказваючы пра кожны экспанат. Потым, калі я ўжо самастойна вяла экскурсіі, пільна сачыла за кожным маім крокам: хадзіла амаль за кожнай групай і ўважліва слухала. Спачатку я думала, што яна ходзіць толькі за мною, навічком, і заўсёды хвалявалася. Але хутка супакоілася: цёця Уладзя хадзіла амаль за кожным экскурсаводам. Толькі рэдка калі моўчкі даходзіла да канца. Абавязкова з кім-небудзь з наведвальнікаў пачынала гаворку. Хутка ўся ўвага скіроўвалася на яе, і экскурсію ў такіх выпадках яна канчала ўжо сама.

Не пакідала Уладзіслава Францаўна без увагі ніводнага наведвальніка. Хто б ні заходзіў у музей, абавязкова падыходзіла, распытвала, хто ён, адкуль, дзе працуе, што яго зацікавіла ў музеі.

Любілі і цанілі Уладзіславу Францаўну прыхільнікі роднага слова, шанавалі яе пісьменнікі Беларусі і братніх рэспублік. Усюды яна была дарагім і жаданым госцем. За адданасць роднай культуры, за нястомную прапаганду творчасці паэта высока ацаніў яе і наш урад.

Па меры таго, як рос музей, шырыліся фонды, само сабой паўстала пытанне аб будаўніцтве асобнага памяшкання, і Уладзіслава Францаўна бярэцца за гэты нялёгкі клопат. Дзіва, адкуль у яе, жанчыны ўжо ў гадах, столькі было сіл і энергіі! Будаўніцтва, набыццё мэблі, абсталявання, распрацоўка і размяшчэнне экспазіцыі - усё гэта не кожнаму пад сілу. А яе хапала на ўсё. Але, на вялікі жаль, дзверы новага музея, пабудаванага на месцы доміка, дзе да вайны жыў паэт, для першых наведвальнікаў 17 мая 1960 года расчыніліся ўжо без яе: сама Уладзіслава Францаўна не дажыла да гэтай урачыстай падзеі, памерла 25 лютага таго ж года.

Чулая і сардэчная, яна заўсёды думала пра іншых і ніколі - пра сябе. Верны друг, памочнік і дарадчык вялікага песняра, яна пражыла жыццё як песню, песню вернасці вялікаму паэту.

**ТАМАРА ТАРАСАВА**

## ВАЗЬМУ МАЛЕНЬКУЮ ДЗЯЎЧЫНКУ

Набліжаюцца летнія канікулы і, мабыць, так як у мінулых гадах, у рамках дапамогі ахвярам аварыі на Чарнобыльскай АЭС прыедуць да нас на летні адпачынак дзеці з пацярпеўшых раёнаў Беларусі. У мінулым годзе на Варміі і Мазурах адпачывала 720 дзяцей з ваколіц Бабруйска і Гомеля. Пабыўку ў Польшчы арганізаваў ім «Карытас» - харытатыўная касцельная арганізацыя. Дзеці прабывалі ў каталіцкіх сем'ях Вармінскай дыяцэзіі - у Фрэдновах, Мрангове, Простках, Вяльбарку, Шчытне, Дыбітах, Самбарове, Алецку, Ожышы і Ольштыне.

«Жывем мы як у музеі, ямо бананы і п'ем смачныя напіткі», - пісаў дванаццацігадовы Пеця з Гомеля ў лісце да сям'і. Ліст пошта вярнула назад, бо быў ён над-та цяжкі. Хлопчык паклаў сюды таблічку жвачак і хацеў іх даслаць сваёй сястрычцы.

Спадарства К. узялі двух хлопцаў. Спачатку планавалі ўзяць маленькую дзяўчынку, у кампанію для іх унучкі. Што ж было рабіць, калі асталіся адны хлопчыкі? Хлопцы хутка зжыліся са сваімі апекунамі. Ахвотна расказвалі ім пра сябе, многа пыталі пра справы і рэчы, з якімі ў Гомелі не сустракаліся. У свабодныя хвіліны спадар К. многае хлопцам тлумачыў. На развітанне быў у іх урачысты абед са свечкамі, кветкамі і падарункамі. «У цяжкі час спазнала я ад людзей многа добрага і такім чынам хачу сплаціць гэты доўг», - сказала спадарыня Марыя К.

Пані Тэрэза, медсястра, на працягу месяца апекавалася двума хлопцамі з Гомеля. Былі гэта цудоўныя хлопцы, - гаворыць яна, - інтэлігентныя, ахвотныя памагаць ва ўсім, добра выхаваныя. Прывезлі з сабою кніжкі, цікавіліся нашымі газетамі, хадзілі па кніжных магазінах. Відэа, сатэлітарная тэлевізія? Гаварылі, што маюць яе ў сябе. А тавараў на продаж не прывезлі, ніводнай рэчы. Грошы на неабходныя выдаткі далі ім мы і нашы суседзі. Адзін з хлопцаў, Стась, мае пляменнікаў у Польшчы. Сваяк, прафесар з Вроцлава, абдараваў яго грашыма і кніжкамі.

Олю, якую прынялі на два тыдні Збышэк і Ліля, мае багатых бацькоў і прыехала не толькі адпачываць. Прывезла з сабою тавар на продаж і Лілі давялося прадаваць на мясцовым базары. Оліны бацькі і сястра часта прыязджаюць у Польшчу, да сям'і ў Калабжэг, у гандлёвых мэтах. Чаму ж тады Оля не паехала да іх? - здзіўляліся апекуны.

Аб тым, што дзеці будуць прабываць на адпачынку месяц, а не два тыдні, як раней планавалася, арганізатары даведаліся пасля прыезду першай групы. Многа здароўя каштавала дыяцэзіяльных арганізатараў - дырэктара «Карытасу» ксяндза Браніслава Сякерскага і яго памочніцу Ірэну Мусял, пераконванне апекуноў, каб затрымалі ў сябе дзяцей на месяц. А быў гэта час летніх водпускаў і многія планавалі свае выезды. Большасць сем'яў, якія уключыліся ў акцыю «Дзеці Чарнобыля», гэта не найбагатшыя людзі, а прымаць гасцей, хаця і самых маленькіх, гэта ў нашых цяперашніх умовах значны выдатак. З Божай і чалавечай дапамогай удалося кс. Сякерскаму запэўніць апеку ўсім дзецям. Многія людзі, якія планавалі узяць адно дзіця, узялі двое.

Мінулай восенню адбылася канферэнцыя дырэктараў аддзяленняў «Карытасу» ў справе акцыі дапамогі чарнобыльскім дзецям у будучым. Найважнейшая справа, каб на выезд былі накіраваны дзеці з бедных сем'яў, дзеці, якім такі адпачынак неабходны. Гэта немаральна, калі ў такія групы трапляюць малыя гандляры, якія паездку выкарыстоўваюць толькі для прыдбання падарункаў. Як будзе ў гэтым годзе - пабачым.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# КРЫВАЯ - КАРАЛЕЎСКАЯ ВЁСКА

У 1576 годзе праводзілася люстрацыя каралеўскіх вёсак і Крывая тады называлася *Кржыватычэ*. У 1602 годзе запісана яе назва як *Кжіватіце*. Назва Крывая ўжо выступае ў гадах 1775—1789. Рэчачка, якая ўпадае ў Арлянку ўжо ў 1501 годзе называлася *Крывая*. Ці змянілі назву вёскі на назву рэчачкі, ці таму, што вёска Крывая Воля (сённяшнія Крывяцічы) мела там луг? — цяжка цяпер сказаць.

Назвы ўрочышч: Крывая Даліна, Леўске, Гора, Кунэць, Лісноіі, Тополеўка, Вэрэжэмшчына, Смалянкі, Вздоўжне, Клінкі, Тополя.

Пашы і лугі: Двуорска Доліна, Галовы, Сплавы, Закуты, Подтрыбухово, Подболуоте, Вокліна, Сучына, Крушынкі, Войтоўшчына, Струга (лес), Багно, Над Кудріном, Сэрэдні Корчэў, Над Левокрывою, Купа (луг).

Прозвішчы старэйшых жыхароў: Бэзюк, Стрэльчук, Галёнка, Ігнацюк, Семянюк, Петручук, Леўчук, Іванюк, Барысюк, Васілюк, Міранюк, Якімчук, Вакулеўскі, Раманюк, Краўчук, Гаркавы.

У 1976 годзе запісаў я ў Крывой такую вось байку:

### Старое дабро забываецца

Аднойчы гаспадар выбіраўся малаціць. Раненька паснедаў, узяў у рукі цэп, мяшок пад руку і пайшоў пад клуню. Аж раптам чуе, як паляўнічыя выганяюць ваўка з лесу. Выбягае воўк, падбягае да мужыка і просіць, каб той схаваў яго. Мужык кажа:

— Дзе я цябе схаваю?

—У мяшок, — адказвае воўк.

Мужык наставіў мяшок, а воўк ускочыў у яго. Селянін завязаў мяшок, закінуў яго на плечы і пайшоў. Аж тут паляўнічыя выбягаюць з лесу і пытаюцца, ці ён не бачыў ваўка.

— Не бачыў.

Паляўнічыя пакруціліся і пайшлі, а тады мужык кажа ваўку:

— Вылазь з мяшка!

Ён развязаў мяшок, воўк вылез, і кажа:

— Я цябе з'ем.

Мужык яму адказвае:

— Ці ты здурэў! Я ж цябе выратаваў ад смерці, а ты мяне хочаш з'есці?!

— Старое дабро забываецца, — сказаў воўк.

— Як гэта так? — кажа мужык.

Воўк запрапанаваў разам з ім пайсці і высветліць гэту справу ў сустрэчных звяроў. І так на пашы сустракаюць старую кабылу і пытаюцца ў яе:

— Чаму ты такая худая?

Кабыла кажа:

— Як я была маладая, тлустая, бадзёрая, не пакідала гаспадара, прывозіла нават яго п'янага з карчмы, прывяла яму дванаццаць жарабят, тады ён мяне карміў, даглядаў, пільнаваў, каб зладзеі не ўкралі, замыкаў ў жалезныя путы. Цяпер, я старая, нядужая, ён нават мяне і не хоча ў хлеў пусціць. Выгнаў на пашу, каб ваўкі з'елі:

— А што? Чыя праўда?

— Да трох разоў штука, — кажа мужык. — Папытаемся яшчэ ў іншых звяроў.

Ідуць яны далей. Бачаць, перад хатай ляжыць сабака — худы, глухі і стары. Пытаюцца ў яго, як там яго жыццё.

— Якое жыццё? — адказвае сабака. — Як я быў малады, цэлымі начамі бегаў па панадворку і пільнаваў гаспадарскага дабра ад зладзеяў. Днямі з пастухамі пасвіў кароў, авечак. Любіў мяне гаспадар. Карміў добра і надзяляў сваёй ласкай. Цяпер я стары, глухі. Не маю сілы пільнаваць панадворка, дажываю і нікому я непатрэбны. Ніхто нават на мяне і не гляне.

Тады воўк кажа:

— А што, ці старое дабро не забываецца?

Ідуць яны далей і сустракаюць лісіцу. Мужык кажа:

— Ліса, разумная галава, рассудзі ты нас: я ваўка схаваў ад паляўнічых, а ён цяпер мяне хоча з'есці. Воўк кажа мне, што старое дабро забываецца!

Тады ліса пытаецца:

— Як жа ты яго схаваў, дзе? Пакажы гэта мне, тады я здолею праўду сказаць...

На гэтым мой размоўца спыніў апавяданне, не адказаў мне як лісіца рассудзіла. Сказаў толькі: „Думайце самі, як гэта скончылася".

**МІКАЛАЙ ЛЯШЧЫНСКІ**




**З дакументаў Генеральнага штаба (II Аддзела), Варшава 1928.**

— 63 —

Апошні даклад, з якім выступіў Цвікевіч, кранаў справу Вільні. Згодна з выступленнем Цвікевіча, Канферэнцыя прыняла наступную рэзалюцыю:

„Беручы пад увагу тое, што справа дзяржаўнай прыналежнасці Віленшчыны, якой беларусы складаюць абсалютную большасць, вырашана Лігай нацый без удзелу прадстаўнікоў беларускага народа і без хаця б фармальнага азнаямлення з яго воляй шляхам новага рэферэндуму, беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя ў Празе аб'яўляе, што беларускі народ будзе трактаваць пастанову Лігі нацый як часовую, да моманту склікання вярхоўнага заканадаўчага органа Беларусі, які мае выключнае права на ўстанаўленне сталых межаў Беларусі.

Пастановы Лігі нацый, якія трактуюць беларусаў з Віленшчыны як нацыянальную меншасць, астаюцца ў нязгодзе з фактычным станам рэчаў і таму канферэнцыя рашуча супраць іх пратэстуе.

Прызнаючы, што Літва з'яўляецца адвечным гістарычным прыязным суседам беларускага народа, з якім спалучаюць яго супольнасць палітычных і эканамічных інтарэсаў, канферэнцыя выказвае перакананне, што Беларусь і Літва знойдуць у сённяшні момант, так як было гэта ў мінулым, адпаведны шлях для дзяржаўных і суседскіх суадносін. Слаўная сталіца старога Беларуска-літоўскага княства — Вільня — не павінна быць яблыкам разладу між беларускай і літоўскай дэмакратыяй, а толькі фактам, які іх яднае. З другога боку, беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя заяўляе, што бачыць небяспеку з боку польскага імперыялізму, якая таіцца ў прынятай Лігай нацый канстытуцыйнай канструкцыі Літвы і лічыць неабходным, у паразуменні з літоўскім народам, далажыць сіл для таго, каб польскі план адносна захопу і зняволення беларускіх і літоўскіх земляў не быў рэалізаваны".

Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя канстатуе з жалем, што пастанова Лігі нацый адносна передачы ў польскае ўладанне беларускай Гародні і ўсёй Гродзеншчыны з'яўляецца новым падзелам Беларусі, праведзеным не ваюючымі бакамі, але міжнароднай установай, якая павінна быць носьбітам справядлівасці.

У справе Гродзеншчыны было пастаноўлена:

„Гродзеншчына павінна быць звернута Беларусі, Гродзеншчына павінна быць уз'яднана з усёй беларускай зямлёй. Няхай ведае беларускае насельніцтва Гродзеншчыны, што святая гадзіна такога ўз'яднання хутка надыдзе і няхай не траціць надзеі ў абліччы надыходзячага змагання".

У часе дэбатаў над віленскай справай, наступіў абмен меркаваннямі паміж Цвікевічам і Алексюком. Апошні прыбыў на канферэнцыю са спазненнем і прыняў у ёй удзел толькі ў часе дыскусіі над віленскай справай. Выказаў ён сваё палітычнае „credo" як староннік польскай арыентацыі.

Адказаў яму вельмі жыва Цвікевіч, зазначыўшы, што ў Польшчы ўсе, ад Дашынскага да генерала Галера, паўтараюць, што Беларусі як такой няма і не будзе.

У далейшым даказваў, што ніякія чужыя арыентацыі не будуць у стане запэўніць Беларусі нацыянальнае існаванне, што няма месца для гістарычнай эвалюцыі і што толькі сусветная рэвалюцыя магла б вызваліць зняволеныя народы. Адзіным заклікам Беларусі ёсць „Вольная і незалежная Беларусь". *(Усе цытаты перакладзены з польскай мовы - А.Б.).*

*(Працяг будзе)*

# ЯК БРАТЫ СЯСТРУ ХАВАЛІ

У доме састарэлых у мясцовасці В. жыла сястра двух братоў: Сцяпана і Харытона. Брат Сцяпан аддаў яе ў дом састарэлых, пасля смерці бацькоў, гадоў 30 таму назад. Яна вельмі яму мяшала, хаця і з ім не жыла. За гэтыя 30 гадоў Сцяпан ні разу яе не наведаў. Вядома, яму было ўстыдна да яе прызнавацца: ён багаты, паважаны чалавек, а тут недалужная сястра. Гэта ж вялікі ўстыд, сорам, тым больш, што дачка замужам за шанаваным усімі чалавекам. Не знайшлося сястры месца ў хаце, дзе ажно шэсць пакояў.

А ў брата Харытона таксама месца не было. Хата малая і малое дзіця — на добры лад усім павінна хапіць месца. Харытон часта ездзіў у дом састарэлых у В., наведваў яе, вазіў ёй яйкі, а як закалоў парася, дык каўбасу прывозіў. Яшчэ і ў Гародні была сястра, якая часта прыязджала ў В. да недалужнай сястры. Але вось нядаўна яна, небарака, памерла. І тады пачалася праблема: каму хаваць сястру? У брата Харытона грошай няма, а брат Сцяпан не хоча прывезці цела ў родную мясцовасць Н., а заўпарціўся, каб пахаваць яе ў В. на мясцовых могілках. На пахаванне прыехала сястра з Гародні і разам з братам Харытонам перамаглі Сцяпана і пахавалі нябожчыцу ў Н., дзе ляжаць бацькі.

У нябожчыцы была ашчадная кніжка і тут узнікла пытанне: каму будуць грошы, каму тыя сем мільёнаў, якія яна, няшчасная, назбірала на сваё пахаванне? ЗУС вярнуў Харытону грошы за пахаванне і з боку Сцяпана падняўся крык: давай дзяліцца грашыма, Харытон!

Суд вырашыць, каму даць грошы, але дзе сумленне ў Сцяпана? Чаму з-за грошай людзі губляюць сваю чалавечую годнасць?

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў**

3964. Праваслаўная парафія ў Плёсках — 300.000 зл.
3965. Праваслаўная парафія ў Каралёвым Мосце — 250.000 зл
3966. Праваслаўная парафія ў Ласінцы — 65.000 зл.
3967. Ніна і Юстын Качаны (Варшава) — 50.000 зл.
3968. Праваслаўная парафія ў Кэнтшыне — 25.000 зл.
3969. Гмінная управа ў Нарве — 20.000.000 зл.
3970. Праваслаўная парафія Нараджэння Прачыстай Дзевы Марыі ў Бельску-Падляшскім — 340.000 зл.
3971. Праваслаўная парафія Усіх Святых у Беластоку — 380.000 зл.
3972. Праваслаўная парафія св. Міхала ў Бельску-Падляшскім — 337.000 зл.
3973. Язэп Клышэвіч (Зялёная Гура) — 100.000 зл.
3974. Гмінная управа ў Дубічах-Царкоўных — 2.000.000 зл.
3975. Канцылярыя Праваслаўнага Епіскапа Лодзінскага і Познанскага ў Лодзі — 1.250.000 зл.
3976. Ян Целушэцкі (Беласток) — 100.000 зл.
3977. Люба і Фёдар Галёнка (Варшава) — 200.000 зл
3978. Алена Таболіч з Менска — 50.000 зл.
3979. Зоя Смаршчок з Бельгіі — 5.000 бельгійскіх франкаў
3980. Рыгор Шэйпак са ЗША — 285 амер. долараў
3981. Праваслаўная парафія ў Семяноўцы — 150.000 зл.

Дзякуем.
Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Мы слухаем менскі дзіцячы калектыў „Чабарок" у Нарве*

**Фота М. Лукшы.**

КАЗКА

# ХЛЕБНАЯ КРОШКА

Крошка была не простая, а чароўная: яе з'ядалі, а яна зноў з'яўлялася, пераходзіла з дома ў дом. Але пераходзіла толькі да добрых людзей, падмацоўвала іх сілы. Ішла вайна, мужчыны ваявалі, а тут, у тыле, працавалі жанчыны, старыя і дзеці. Хлебная крошка часцей за ўсё і падкормлівала дзяцей, бо ім яшчэ трэба было расці ды расці.

І вось аднойчы чароўная крошка знікла. Благі чалавек, гультай і скнара, украў яе ў маленькай дзяўчынкі.

Ды не захацела крошка служыць благому чалавеку. Як толькі той узяў яе ў рот, яна ператварылася ў каменьчык і ледзь не зламала яму зуб. Завойкаў злодзей, выплюнуў каменьчык, і ён зноў стаў хлебнай крошкай.

Тады ўзяў крошку малодшы брат злодзея, таксама не вельмі добры хлопчык. Але і ў яго роце крошка стала каменьчыкам. Раззлаваўся хлопчык, закрычаў:

- Пайду да дзяцей, даведаюся, чаму іх крошка карміла. А дзеці ў гэты час былі ў полі, збіралі на ржышчы каласкі. Стаміліся, селі адпачыць. Старэйшы хлопчык раздаў усім па бульбіне. З'елі дзеці бульбу, запілі вадой.

- Яшчэ б хлеба лустачку, - сказала адна дзяўчынка.

- А што, - падтрымаў яе старэйшы хлопчык, - мы сёння заслужылі, каб крошка падкарміла нас.

Пачуў дрэнны хлопчык пра крошку і вушы навастрыў, пачаў пільна сачыць з-за кустоў, дзе хаваўся. Старэйшы хлопчык разаслаў на зямлі



хусцінку, прашаптаў чароўныя словы:

- Крошка, крошка, падкармі нас трошкі!

На хусцінцы з'явілася хлебная крошка. Дзеці па чарзе бралі яе і спакойна жавалі. З'ядаў адзін хто-небудзь, а крошка зноў з'яўлялася на хусцінцы.

Прыбег дрэнны хлопчык дамоў, расказаў брату пра чароўныя словы. Але і яны не дапамаглі: хлебная крошка ўсё адно ператваралася ў каменьчык. Яшчэ мацней раззлаваўся дрэнны хлопчык і выкінуў крошку ў акно. Глядзіць: пад акном вырас каласок. Падбег, каб бліжэй паглядзець на гэткі цуд, а каласок загаварыў:

- Ідзі да дзяцей і рабі ўсё, што будуць рабіць яны. Тады даведаешся, чаму крошка падкормлівае іх, а ў цябе і ў твайго брата ператвараецца ў каменьчык.

Узрадаваўся дрэнны хлопчык і пабег да дзяцей. Разам з усімі збіраў каласкі, стаміўся. Селі адпачываць. Старэйшы хлопчык прашаптаў чароўныя словы - і на хусцінцы з'явілася хлебная крошка. Дрэнны хлопчык асцярожна ўзяў яе, пачаў жаваць. Не, яна не ператварылася ў каменьчык. Мяккая, духмяная, якая ж яна смачная была! Адразу адчуў, што сіл прыбавілася, быццам і не працаваў. Дома ён сказаў брату:

- Мала ведаць чароўныя словы. Пойдзем з намі, брат, збіраць каласкі, і ты таксама даведаешся, у чым сакрэт хлебнай крошкі.

А вы, дзеці, здагадаліся, чаму хлебная крошка ў каменьчык ператваралася?

**ТАМАРА ДЗЕРАВЯГІНА**



ВАЛЯНЦІН ЛУКША

# ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСНЯ

казка

Колькі б лебедзі ў вырай,
За тысячы вёрст,
Ні лятал і
- Яны роднай зямлі,
Родных гнёздаў сваіх не мінал і.
Іх чароды заўсёды
Дакладна збіраліся ў шлях,
Ледзь затрубіць вясна,
Ручаі зазвіняць у палях.
Ды аднойчы ў дарозе
Сустрэліся ім халады.
Як далей веславаць?
Як пазбавіцца гора-бяды?
Днём і ноччу праз вецер
Яны апантана ляцелі,
Бо да роднай зямлі
Хоць крылом дакрануцца хацелі.
Толькі сцюжа хвастала -
І стыла гарачая кроў,
Птушкі строма ляцелі
ў прадонне калючых снягоў.
Ды ў вачах, як прамень,
Трапятала надзея жывая -
Даляцяць, давяслуюць усё ж
Да жаданага краю. -
Хопіць! Хопіць з мяне! -
Хтосьці крыкнуў. -
Не вытрымаць сэрцу...

І пакінулі лебедзі
Лютай пустэльні Зняверцу.

- Хопіць! -
Крыкнуў другі. -
Не магу!
Не пад сілу мне далеч...

І стомлёныя лебедзі
Прэч палахліўца прагналі.

- Хопіць!
Там, на зямлі,
Нас аплачуць, напэўна, хаўтуры...

І пакінулі лебедзі
Здрадніка
ў белай віхуры.

Чарада зразумела:
Хто доле нырнуў - не ўваскрэсне.
І апошнія сілы сабралі
Для сонечнай песні.
Пра Радзіму спявалі,
Пра любыя тоні і краскі,
Пра свой край, прыгажэйшы
За самыя дзіўныя казкі.
Тая песня ў палёце
Вяртала адвагу і сілы,
Саргавала ім кроў І
наструньвала лёгкія крылы.
Зноў над безданню птушкі,
Крыло да крыла, Паплылі.
І нарэшце абрысы убачылі
Роднай зямлі.
Там буяла вясна,
Там бялела чаромхаю далеч.
Прывітальнаю песняю
Птушкі свой край услаўлялі,
Як ніколі, натхнёна спявалі
Над любай зямлёю...

Болей лебедзі свет
Не парадуюць песняй такою,
Бо як толькі крануліся
Хвалі блакітнай, вясёлай,
Назаўсёды згубілі
Празрысты свой,
Сонечны голас.




З „Чабарком" на Беласточчыну прыехаў таленавіты скрыпач Алёша Яўтуховіч.

## ДЗЕ ЗНАЙСЦІ БАРАВІК?

Белы грыб, альбо баравік, як мы яго называем, - адзін з самых прыгожых, смачных і каштоўных у вялікай грыбной сям'і. Некалі толькі іх і называлі грыбамі. Белым грыб называецца таму, што і пасля варкі, і пасля сушкі яго мякаць застаецца белай.

У канцы чэрвеня з'яўляюцца першымі баравікі - каласавікі. Куды ж пайсці, каб знайсці баравік у гэты час? Зразумела, не ў лясны гушчар. Прайдзіце па ўзлеску, уважліва ўглядаючыся ў траву, узбоч лясных дарог і прасек, дзе растуць бярозы ці старыя дубы.

Калі чэрвень выдасца сухім, то баравікі часцей будуць трапляцца на нізкіх месцах. Звычайна ж іх больш бывае на невялікіх узвышшах.

Першы сігнал аб з'яўленні баравікоў даюць чырвоныя мухаморы. Як толькі заўважыце іх - значыць, час быць і баравікам. Бярыце кошык і адпраўляйцеся ў лес. Не ўпэўнены, што вам пашанцуе гэтак жа, як аднаму грыбніку, што знайшоў пад Менскам вельмі вялікі і надзіва здаровы баравік вагой 5 кілаграмаў. Але, безумоўна, штокольвечы вам трапіцца, ва ўсякім разе на патэльню павінна хапіць.

## Вершы Віктара Шведа

### ПАЛЯРНЫ КОНЬ

Па гарадской маставой
Конь белы крочыць пад дугой.
Чуваць яго хаду здалёк.
Падковы звоняць: цок ды цок.
Каня убачыўшы, як снег,
Дахаты хуценька прыбег
З навінаю малы Лявонь:
-З'явіўся нам палярны конь!

### ЦІ БУДЗЕШ ТЫ ЯШЧЭ СПЯВАЦЬ?

Ляжыць у ложку малы Янка.
Тата спявае калыханкі.
Спявае тата і спявае,
Сынок ніяк не засынае.
Тата ўжо робіць перапынак
І чуе тут пытанне сына:
-Ці, тата, я магу ўжо спаць,
Ці будзеш ты яшчэ спяваць?

### ХТО ЎСЁ ЧУЕ, ВЕДАЕ І БАЧЫЦЬ?

Настаўнік Божага закона
Пытае вучняў: - Прашу
растлумачыць,
Хто на свеце так адухаўлёны,
Што ўсё чуе, ведае і бачыць?

Адказаць спяшаецца Анэтка,
Што заўжды гаворыць вельмі многа
: -Гэта ж будзе нашая суседка,
Ад яе не скрыецца нічога!

## ЛЯЛЬКА

Мама вядзе Таню з дзіцячага садзіка. На сцяжынцы валяецца лялька - голая, з адарванай рукой. Хлапчук, які прабягаў міма, ударыў ляльку нагой. Яна ўпала на спіну і прастагнала:

- Ма-ма!

У ляльці адарвалася і другая рука. Бедная лялька. Таня пашкадавала яе, асцярожна ўзяла на рукі і спытала:

- Табе баліць?

- Ма-ма! - зноў жаласна прастагнала лялька і заплюшчыла блакітныя вочы.

- Таня, кінь ляльку! - загадала мама. - Паглядзі, якая яна брудная!

- Мамачка, ёй жа баліць!
- Ляльцы не баліць, яна нежывая, - растлумачыла мама.

- Але ж яна плача, значыць - баліць, - сказала Таня і таксама заплакала. Дома Таня выкупала ляльку ў ванне. Тата прырабіў ёй рукі, а мама пашыла квяцістае плацце.

Ах якой прыгажуняй стала лялька! Таня бярэ ляльку на рукі, і яна радасна кажа:

- Ма-ма!

**ЯЎГЕН БАРАВЫ**




Бацька, удзельнік вайны, расказвае сыну пра свае ратныя подзвігі. Сын захоплена слухае, урэшце пытаецца:

-Тата, калі ўсё гэта рабіў ты, то тады навошта былі яшчэ і салдаты?

xxx

-Вовачка, дзе твой школьны дзённік?
-Яго Колька ўзяў. Бацьку пужаць будзе!

xxx

Вовачка звяртаецца да бацькі:
-Я на ўроку хіміі трошкі перахімічыў. Цябе ў школу клічуць.
-Што я там забыўся?
-Вось і я кажу: няма чаго па руінах хадзіць.

**/В.Б./**




## БЕЛАРУСКІ СТОЎНХЭНДЖ

Па сведчаннях гісторыкаў, недзе ў V-IV тысячагоддзях да н.э. для багата якіх архаічных грамадстваў пачалася каляндарна-астранамічная эра. Менавіта з гэтага часу назіранні за зорным небам і нябеснымі свяцiламі набываюць сістэматычны і спланаваны характар: на вялікіх абшарах Еўропы пачынаюць узводзіцца мегалітычныя (ад старагрэчаскага «мегалітос» - «вялікі камень») свяцілішчы-абсерваторыі. Яны дазвалялі з зайздроснай для тых гадоў дакладнасцю прадказваць розныя касмічныя і прыродныя з'явы і весці адлік часу. Бадай, самы вядомы сярод іх - культава-астранамічны комплекс Стоўнхэндж недалёка ад Солсберы ў Англіі. Відаць, патрэба ў каляндарных назіраннях узнікла ў паўночных зонах Еўропы нездарма, бо тут сельскагаспадарчая дзейнасць вельмі моцна залежыць ад сезонных прыродных цыклаў.

Ёсць шматлікія сведчанні, што і нашы непасрэдныя продкі былі зусім някепскімі астраномамі. Яшчэ і сёння архаічны земляробчы каляндар на Беларусі належыць жывой традыцыі і адрозніваецца добрай захаванасцю. Каляндарныя матывы абавязкова прысутнічаюць у народным мастацтве: у арнаментацыі жаночых строеў, у аздабленні вырабаў з дрэва і г.д. Археолагамі выяўлены шэраг старажытных культавых помнікаў, якія мелі таксама і астранамічнае прызначэнне. Найбольш цікавыя сярод іх - свяцілішча X-XI стагоддзяў на беразе возера Святога (Добрага) недалёка ад Рагачова і культава-астранамічны комплекс на беразе возера Янава, што пад Полацкам. Цэнтральны элемент Янава свяцілішча - выкладзены з трох бакоў валунамі вялікі квадрат, які нагадвае найбольш старажытную частку шматразова перабудаванага Стоўнхэнджа. Адкрытым бокам квадрат накіраваны на гару Талкачоўку, за якую дакладна купальскай ноччу заходзіла сонца. Гэта было сігналам для пачатку Купала-Янаўскага свята. Помнік гэты яшчэ і сёння выконвае сваю функцыю, хаця бязлітасная рука «стваральнікаў новай культуры» не абмінула і яго.

**С. САНЬКО**

## Дарагая „Зорка"!

Нараўка, 5.05.92 г.

Пішуць табе вучні IV «а» і «б» класаў Пачатковай школы ў Нараўцы. Беларускай мове вучыцца нас толькі 9 асоб, але мы не шкадуем, што два разы ў тыдзень прыходзім на ўрок беларускай мовы.

На ўроках мы часта чытаем «Зорку» і прыгоды мышкі Пік-Пік. Гэтыя апавяданні нам вельмі падабаюцца. У класе мы арганізавалі выстаўку малюнкаў і тры выбраныя (Кшыся Тарадынкі, Крысі Марчук і Паўла Каліноўскага) высылаем табе. Усе вучні хочуць падзякаваць аўтару і «Зорцы» за тое, што друкуе для нас прыгоды сімпатычнай мышкі.

**Вучні IV „а" і „б" класаў у Нараўцы.**



ЗАГАДКАВАЕ, НЕВЕРАГОДНАЕ, ФАНТАСТЫЧНАЕ

# МАГІЯ МАЯТНІКА

Ніхто - ні ваш сябар, ні калега, ні чыноўнік і ні мудрэц не ведае вас так добра, як вы самі. Але маятнік паднясе вам тут шмат новага, часам нечаканага, бо адкрывае доступ да нашай «чорнай скрыні» - падсвядомасці.

**Што такое маятнік?** Невялікі грузік на шнурку /нітцы/, які ў час работы з ім трымаюць паміж вялікім і ўказальным пальцамі. Робіцца ён з дрэва, металу, шкла, бакеліту, штучнага жэмчугу або янтару. Неабавязкова прымяняць каштоўныя матэрыялы. Гэта можа быць заручальны пярсцёнак, корак з уторкнутай іголкай, гузік. Маятнік падвешваецца на нітку, лёску, ланцужок або шнур даўжынёй каля дваццаці сантыметраў.

**А цяпер - навошта ён патрэбны, ваш асабісты маятнік?** З многіх сфер яго прымянення спынімся перш за ўсё на тым, што цікавіць літаральна кожнага, - здароўі. Сёння ў Францыі, напрыклад, больш як 2.500 урачоў актыўна выкарыстоўваюць маятнік у паўсядзённай медыцынскай практыцы. Але і сам хворы можа такім чынам выбраць сабе ўрача, экстрасенса. Трэба толькі напісаць прозвішча яго на лісце паперы, патрымаць над ім маятнік і спытаць: «Гэты ўрач /экстрасенс/ дапаможа мне?» Нарэшце, вы і самі можаце лячыцца з дапамогай маятніка. Французкі інжынер Андрэ Сіментон выкарыстаў яго для складання дыеты, каб пазбавіцца ад цяжкага захворвання - туберкулёзу. Для гэтага ён трымаў маятнік над назвай кожнай стравы і пытаў, ці варта яе ўжываць. Вярчэнне па гадзіннікавай стрэлцы ўказвала, што варта, супраць - не. Такім чынам ён не толькі вылечыўся ад туберкулёзу, але і ад захворвання печані.

Гэтак жа можна правяраць якасць ежы або вады, хатнія расліны - ці не шкодныя яны вам? - і многае іншае. Скажам больш: гэта незаменны дарадчык і ў вырашэнні іншых жыццёва важных праблем. З дапамогай маятніка можна вызначыць сваю будучую работу, спецыяльнасць, род занятказў. Трэба напісаць спіс розных прафесій і над кожнай назвай патрымаць маятнік, пытаючыся: «Ці падыходзіць мне гэта прафесія?»

А ці ж не цікава даведацца пра сваю сумяшчальнасць з роднымі, сябрамі, саслужыўцамі? Тут трэба дзейнічаць наступным чынам. Інтэнсіўна падумайце пра чалавека, настройцеся на яго. Затым вазьміце ліст паперы і напішыце побач два прозвішчы людзей, якія вас цікавяць. Зрабіце глыбокі ўдых, расслабцеся, патрымайце маятнік над кожным прозвішчам, пытаючыся, ці падыходзяць вам гэтыя два чалавекі. Калі маятнік акрэсліць круг па гадзіннікавай стрэлцы, то адказ станоўчы, калі супраць - адмоўны. /Дарэчы, нельга жаніцца, выходзіць замуж, калі адзін з партнёраў зараджаны станоўча, а другі - адмоўна. А зарад вызначаецца па верхняй частцы цела, дзе знаходзяцца галоўныя органы - сэрца, мозг. Патрымайце маятнік каля галавы. Калі ён пайшоў па гадзіннікавай стрэлцы - чалавек зараджаны станоўча. Ніжняя частка цела нясе процілеглы зарад/.

**Вы заінтрыгаваны, чытач?** Або ўжо гатовы абвінаваціць аўтара кнігі, а заадно і рэдакцыю ў шарлатанстве? Значыць, самы час растлумачыць сакрэт гэтага няхітрага прыбора, які адказвае на любыя - і простыя, і складаныя - пытанні.

Мы жывём у энергетычным Сусвеце, і кожны арганізм акружаны патокамі энергіі, якую выпраменьваюць целы. Усе расліны і жывёльныя клеткі здольныя адчуваць і вызначаць існуючыя энергіі. Але гэта інтуіцыя ў ходзе развіцця чалавека была выцеснена розумам. Таму інтуіцыю яму трэба развіваць нанава. Большасць з нас навучыліся ўспрымаць энергію Сусвету, а маятнік дае магчымасць навучыцца ёю карыстацца. Чалавек, які мае здольнасць да ўспрымання энергіі, павінен толькі падумаць над дакладным пытаннем або праблемай, і яго мозг пашле промні ў бясконцасць, каб атрымаць пажаданую інфармацыю. І не сам маятнік дае адказы на пастаўленыя пытанні, а наш унутраны стан, заключаны ў нервовай сістэме. Маятнік толькі ўзмацняе гэтыя сігналы і іх сэнс перадае кодам-пасрэднікам паміж свядомасцю і падсвядомасцю. Аўтары кнігі сцвярджаюць нават, што маятнік - гэта пасрэднік паміж касмічным выпраменьваннем і падсвядомасцю. А характар яго руху, які адлюстроўвае «так» або «не», вызначаецца тым, што ён паказвае станоўчую або адмоўную энергію.

**Як працаваць з маятнікам?** Вызначце для сябе яго рух, які азначае «так» або «не», «магчыма». На такі від адказаў запраграмавана падсвядомасць. Пераканайцеся, што ў час маніпуляцый вы спакойныя, вашы пачуцці стабільныя. У процілеглым выпадку адказы маятніка будуць памылковымі, бо ён працуе па біяэлектрычных законах, вельмі ўспрымальны да душэўнага стану, які можа блакіраваць паток энергіі. Не дапускайце «замыкання», гэта значыць не скрыжоўвайце рук, ног. Ногі пастаўце цвёрда на падлогу. Маятнік трымайце толькі ў правай руцэ, паміж вялікім і ўказальным пальцамі. І яшчэ адна парада: працуйце заўсёды толькі з асабістым маятнікам. Ён настройваецца на вашы хістанні і ў руках іншага чалавека страчвае адчувальнасць. Удачы вам!

*Пераклад*
*І. МАРОЗАВАЙ.*
*З кнігі Г. Нільсана і І. Палянскага «Магія маятніка». /ФРГ/.*
*/"Звязда" ад 21 мая 1992 г./*

## ГІТ-ПАРАД „ПАД ЗНАКАМ ПАГОНІ”

Новая маладзёжная перадача „Гіт-парад у праграме „Пад знакам пагоні” выйшла ўжо ў эфір. Вы можаце ў кожную суботу паслухаць і выбраць найбольш папулярныя песні і гурты з Беларусі і Беласточчыны. Першыя дваццаць песень прапануюць журналісты беларускай праграмы супольна з рэдакцыямі „Нівы” і „Часопіса”. 10 песень вы пачуеце ў музычнай форме, наступныя 10 будуць чакаць у чарзе і будзе можна паслухаць пра іх у інфармацыях. У кожным новым „Гіт-парадзе” на месца 5 апошніх увойдуць 5 найлепшыя з „пачакальні”. Актуальны „Гіт-парад” будзе друкавацца ў кожнай „Ніве”. Заахвочваем усіх чытачоў да супольнай забавы. Вось нашыя прапановы:

1. **Мясцовы час** — Спіць краіна белая
2. **Уліс** — Пляц Францыска
3. **Мроя** — Я — рок-музыкант
4. **Мроя** — Ён яшчэ вернецца
5. **Грамада** — Кухарка
6. **Муха** — Муха
7. **Данчык** — На вуліцы мокра
8. **Рэй** — Лебядзіны крык
9. **Уліс** — Краіна доўгай белай хмары
10. **Тутэйшыя хлопцы** — У музеі
11. **Новае неба** — Чарга
12. **Альбаросіка** — Пад зялёным дубам
13. **Віктар Шалкевіч** — Нацыяналістычны беларускі блюз „Не пі, сынок”
14. **Анонім** — Васілёчкі
15. **Бонда** — Хлопец дурны
16. **Дубіны** — Ціхі вечар
17. **Уліс** — Радыё „Свабода”
18. **Новае неба** — Тата, купі мне караблік
19. **Песняры** — Маналог сабакі
20. **Рокіс** — Спадыня ноч

**Тэлефануйце ў Беластоцкае радыё па тэл. 26272.**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Мне сённяшняй ноччу прысніліся два дзіўныя сны.

У першым сне я быццам атрымала ад некага паштоўку. Не ведаю, адкуль яна была і ад каго, але была вельмі прыгожая.

Другі сон таксама быў цікавы. Я ведаю, што ўжо вясна і надта цёпла. Але бачу я, што на нагах у мяне зімовыя боты, але без футра. Я думаю: „Божа мой, як жа так, вясна ужо, а я ў зімовых ботах?! Ды і абцас жа надта высокі. Як я ў іх хадзіць буду?” Так сабе раздумваю і раптам заўважаю, што мне ў іх зусім някепска, а нават і вельмі зручна. Абцас зрабіўся ніжэйшы, і я адчуваю сябе ў гэтых ботах вельмі добра. Што могуць абазначаць гэтыя мае сны?

**Ірэна**

Ірэна! Першы твой сон гаворыць за тое, што атрымаеш неспадзявана нейкія весткі. Весткі гэтыя будуць, бадай, прыемныя, паколькі паштоўка, якую ты атрымала, была вельмі прыгожая.

Што датычыць другога сну, дык прадвяшчае ён табе падарожжа. Ты яго вельмі баялася, непакоілася, што будзе табе ў дарозе кепска, а высветліцца, што яно для цябе надта добрае і выгаднае. У кожным выпадку ты будзеш задаволена.

**АСТРОН**

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО?..

...Джынсы — асноўны атрыбут любой плыні ў маладзёжнай модзе, абавязковая састаўная частка гардэробу і „хіпі”, і „панка”, і „металіста”, і „рокера”, і маладога чалавека, які прытрымліваецца традыцыйных поглядаў на адзенне. Джынсы з'явіліся ў сярэдзіне мінулага стагоддзя як рабочае адзенне і праіснавалі ў такім выглядзе стагоддзе. У пачатку 60-х гадоў пачаўся „джынсавы бум”, джынсы сталі называць адзеннем веку. Узнік асаблівы джынсавы стыль: курткі, сукенкі, спадніцы, шорты, галаўныя ўборы, сумкі, абутак, паліто. Яго характэрная асаблівасць — спартыўнасць, мноства кішэняў, „маланак”, заклёпак, металічных гузікаў, рэльефных строчак і, вядома, рацыянальны крой.

Джынсавая тканіна ў залежнасці ад моды афарбоўваецца ў розныя колеры, упрыгожваецца набіўкай, тасьмой, вышыўкай, аплікацыяй. Часам становяцца моднымі лінялыя джынсы з эфектам пацёртасці. Джынсы, пастаянна абнаўляючыся, заўсёды застаюцца ў модзе, таму што даказалі сваю трываласць, зручнасць і своеасаблівую элегантнасць.

* * *

... На планеце пражывае 3—5 тысяч народаў. Самы вялікі народ — кітайцы. Адзін з самых маленькіх — піткэрнцы, жыхары вострава Піткэрн у Акіяніі. Іх каля 60 чалавек. У былым СССР адзін з самых маленькіх народаў — ліві, якія пражываюць у Талсінскім і Вентспілскім раёнах Латвіі. Іх прыблізна каля 150 чалавек. Энцы на Таймыры налічваюць каля 350 чалавек. У Хабараўскім краі ў паселішчах уздоўж рэк Амур і Амгунь жывуць 504 негідальцы...

**ЯСЕНЬ**

## ВЯНОК РЫФМАВАНАК

Паявілася ў продажы чарговая кніжка Выдавецкай суполкі „Пагранічча”, якая называецца „Вянок рыфмаваных пажаданняў”. З'яўляецца яна спецыяльным дадаткам да штомесячніка „Ад вуха да вуха”.

Гэтым разам у ёй няма нічога з сатыры і гумару. На выдавецкім рынку такая кніжка гэта нешта зусім новае. Сабраныя са старых, пажоўклых альбомаў, календароў, часопісаў, выбраныя з анталогій прыгажэйшыя рыфмаваныя пажаданні на кожную нагоду, кожнаму кроўнаму і блізкаму, розным прафесіям з'яўляюцца самым прыгожым дадаткам да аказіяльнага дарунку. Ці то з нагоды імянін, вяселля, нараджэння дзіцяці, ці проста як звычайны надпіс у памятную кніжку знаёмай або знаёмаму, нарачонай. Хопіць прагартаць гэтую кніжыцу і выбраць тое, што каму падыходзіць.

Багатыя ілюстрацыі і цікавае графічнае афармленне сведчаць пра культуру выдання і высокую тэхніку Слонімскай тыпаграфіі, дзе друкавалася гэтая кніжка. Калі параўнаць яе з сённяшнімі выданнямі, дык трэба сказаць, што рыфмаванкі ўтрыманыя ў зусім нетыповым стылі — у стылі барока. Зрэшты кожная старонка багата ілюстравана нетыповымі цяпер графічнымі знакамі. А самае важнае, што кніжка гэта прыдатная на кожную нагоду і кожнаму чалавеку. Кішэнны фармат якраз гэтаму спрыяе.

Пытайце ў кіёсках „Руху”, кнігарнях, на пошце пра „Вянок рыфмаваных пажаданняў”. Не пашкадуеце!

Dodatek specjalny
do miesięcznika od ucha do ucha
Nr 1
Przyjaciół, Kolegów, Przełożonych,
Poważanych i Szanowanych etc... etc...
Bukiet
rymowanych życzeń
na imieniny, Urodziny, Jubileusze, Zaślubiny,
Osobiste Ważne Wydarzenia
i najpopularniejsze święta;
tudzież
Zbiór rymowanek
oraz
poetyckich dedykacji
do pamiętników
Nr indeksu 368334
Cena 8000 zł

### ПЕРШАМАЙСКІЯ ПРЫПЕЎКІ

Мы прыпеўкі вам спяём —
Мо адбелім сажу.
А як чарачку дап'ём
Дык і праўду скажам:

Наш парламент не маніць —
Усё „падзешавела".
Будзе хутка лепей жыць,
Бо ўжо пацяплела.

Эй май, эх май,
Няма калі сесці.
Бульбу сее наш народ,
Каб урад не з'есці.

Я на мітынг не пайду —
Бо хаджу ў крамы,
А як гвалту захачу,
Пайду на „Дынама".

Эх май, эх май,
Урадавыя гульбы.
Кажуць, Кебіч сеў у трамвай,
Каб паехаць у Кітай
І набыць там бульбы.

**Падслухаў і запісаў**

**АНДРУСЬ ПАХМЯЛЮСЬ„**
*(„Звязда")*

### АНЕКДОТЫ

Бацька сыну:

— Памятай, што добры звычай — гэта спачатку падумаць, а потым сказаць.

— Згодзен, ды што з таго. Пакуль я абдумоўваю адно, дзяўчына пачынае ўжо гаварыць пра іншае.

* * *

— Ваша дачка згадзілася быць маёй жонкай.

— Самі вінаваты. Навошта прыходзілі сюды штодзённа вечарам?

* * *

Сядзіць Янка познім вечарам з тэмпераментнай дзяўчынай у парку і, замест карыстацца салодкай аказіяй, уздыхае і правіць ёй чуллівыя маралі:

— Каханне маё да цябе, даражэнькая ты мая, бясконцае...

— Вельмі цяшуся, — спыняе яго, страціўшы цярплівасць, дзяўчына, — але калі ж нарэшце тваё каханне пачнецца...

* * *

Маладая пара заходзіць у гасцініцу.

— Любы, — ціха шэпча яна, — ты думаеш, мы зможам пасяліцца тут так, каб ніхто і не падумаў, што мы не муж і жонка?

— Вельмі проста! Ты ідзі за мной і нясі абодва чамаданы.

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**






## СУЧАСНАЯ ФОРМУЛА

Не так даўно прысутнічаў я на лекцыі аднаго доктара навук. Мяне зацікавіла тэма: **„Беларусь: экалогія і грамадства".**

Я трошкі спазніўся і таму ў маленькай зале для мяне не знайшлося месца. Давялося з гадзіну стаяць у кутку. Аднак гэта не перашкаджала слухаць.

І ўсё ж такі я мала чаго зразумеў, бо лекцыя складалася на сорак пяць працэнтаў з навуковых спецыфічных трактовак, на дваццаць працэнтаў з іншамоўных слоў і на пятнаццаць працэнтаў — з мудрагелістых формул і іх тлумачэнняў.

Формул тых прафесар узяў на ўзбраенне ажно сяміцу! Яны былі старанна выпісаны рознакаляровымі фарбамі на вялікім аркушы, які быў прымацаваны да трыбуны.

Апошняя, канчатковая, формула адрознівалася ад шасці папярэдніх не толькі колерам знакаў — занадта чорным, але і павялічаным іх памерам. У той формуле быў захаваны ключ адгадкі: пад уздзеяннем якіх прычын (фактараў) і што адбылося з нашай прыродай (экалогіяй) і людзьмі (грамадствам).

Я перапісаў яе ў свой блакнот, спачатку перавёўшы сімвалы з лацініцы ў кірыліцу:

**М + Х + Р1 + Р2 + Э + І + С (м) = Д**

Канечне, я — не прафесар, не доктар, нават не кандыдат навук, а толькі сціплы літаратар, і безумоўна, зразумеў тую формулу з пункту гледжання палешука, адносна сваёй адукацыі, сацыяльнага становішча і псіхалагічнага стану. Цяпер хачу азнаёміць чытачоў з маім нестандартным, матэматычна - паэ-тычным поглядам на гэтую навуковую формулу:

**Меліярацыя плюс Хімізацыя плюс Радыяцыя плюс Русіфікацыя плюс Эміграцыя плюс Іміграцыя плюс Стылізацыя з Мімікрызацыяй дае ў выніку Дэградацыю.**

Ці не такі вынік у нас атрымліваецца?..

### ПРА САБАЧЫ БРЭХ І ПЛЁТКІ

Поўнач. Ціша ў нас такая.
Што ў гняздзе маўчыць і грак.
Раптам цішу разрывае
Азвярэлы брэх сабак.
Дзесьці гаўкнула з прасоння
Муська ў будачцы сваёй.
І сабакі ўсе з сутоння
Адказалі гучна ёй.
Падтрымалі голас Муські
І, нібы стальны арэх,
Па каменні, сцежках вузкіх
Пакаціўся гэты брэх.
Спяць у вёсцы куры, качкі,
Спяць і дзеткі — позні час.
Што ж вы, мілыя сабачкі,
Раззлаваліся на нас?
Вас ніхто не гнаў з-пад лаўкі, —
Спалі б ціхенька ў цяпле.
Ды ад той маленькай шаўкі
Брэх пайшоў па ўсім сяле.

Зноў успыхнулі у вокнах
Хат вясковых аганькі.
Вартаўнік ля крамы „вохкнуў":
„Можа, злодзей там які?"

Не чуваць нідзе нікога —
Злодзея і не было...
Ды ад гаўкання такога
Усё прачнулася сяло.

Толькі ўноч аціхлі глоткі
Усіх дварняжак у двары...
Часам так
Разносяць плёткі
Без прычын твае „сябры".

**ПЯТРО ПРЫХОДЗЬКА**

* * *

Ваенны камунізм. Абмен тэлеграмамі паміж жонкай і мужам, які служыць у Чырвонай Арміі:

„Час садзіць бульбу, але няма каму ўскапаць агарод".

„Не перакопвай, на агародзе закапаны кулямёт".

„Прыходзілі чэкісты, перакапалі ўвесь агарод".

„Цяпер саджай бульбу".

## РАЗЕТКА НА „Д"

Управа: 1) „2", 2) мае незвычайныя звычкі, 3) высадка войска на тэрыторыю праціўніка, 4) дзяўбе дрэва, 5) узор-малюнак, пераважна на тканіне, 6) інструмент, якім выдзёўбваюцца дзіркі, 7) паненка, 8) мужаў брат.

Улева: 1) пасудзіна з клёпак для заквашвання цеста, 2) дадатковая карта ў калодзе, 3) праношанае месца ў адзенні, 4) жорсткі чалавек, тыран, 5) вакол зуба, 6) вывучэнне праз эксперыменты, 7) вакол ракі, 8) рака на мяжы Украіны.

**Ядань**




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 17 н-ра. Управа:** нядзеля, крапіва, парадак, варэнік, зборнік, саколік, паветра, капліца. **Улева:** напітак, кадзіла, планета, вяргіня, зарадка, слоўнік, пакунак, кавалак.

Кніжныя ўзнагароды высылаем Андрэю Тынявіцкаму з Піліпак і Лявону Федаруку з Рыбалаў.





**„Niwa", ul. Suraska 1, 15—950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210—33**
**Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.**

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

**Prenumerata.**
1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał upływa 20 maja 1992 r.
2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044—1195—139—11.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.